24 ліпеня 2020 | № 27 (686)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

ISSN 2218-2144

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ



# «Ідэальны шторм» для Лукашэнкі



Сяргей ПУЛЬША

**Пасля таго, як не зарэгістравалі Віктара Бабарыку і Валерыя Цапкалу, але зарэгістравалі Ціханоўскую, аб'яднанне гэтых асобаў і іх штабоў у адну каманду было самым відавочным рашэннем. На першы план беларускай палітыкі выйшлі тры жанчыны: Святлана Ціханоўская, Вераніка Цапкала і Марыя Калеснікава.**

### Памылка на памылцы

Відавочна, у Адміністрацыі прэзідэнта нешта перамудрылі, калі здымалі з выбараў Бабарыку і Цапкалу. Калі б яны ўдзельнічалі ў выбарах, электарат быў бы хоць крыху, але падзелены: «моцныя гаспадарнікі» завабілі б на свой бок тых, хто за «негвалтоўную барацьбу» і, насуперак усяму 20-гадоваму досведу, лічыць, што пераважную большасць галасоў на выбарах нельга сфальсіфікаваць. За Святланай Ціханоўскай засталася б «вуліца»: тыя, хто ведае, у якой краіне жыве, і для якіх абарона свайго выбару праз Плошчу — справа звыклая і натуральная.

Як адзначыў палітолаг Валерый Карбалевіч, «электарат Святланы Ціханоўскай — гэта людзі, якія кіруюцца прынцыпам "хто заўгодна, толькі не Лукашэнка", а электарат Бабарыкі і Цапкалы хацеў бы рабіць рацыянальны выбар, хацеў бы на чале дзяржавы паставіць эфектыўных менеджараў. Бабарыка і Цапкала якраз у гэтым вобразе і выступалі».

Але адбылося так, як адбылося. Хутка была знойдзена і кропка аб'яднання. На мітынгу на плошчы Бангалор тры жанчыны падкрэслілі: асноўная ўмова іх супрацы — гэта вызваленне ўсіх палітычных зняволеных і правядзенне свабодных і празрыстых прэзідэнцкіх выбараў пасля 9 жніўня. Для таго, каб і Бабарыка, і Цапкала, і Сяргей Ціханоўскі маглі прыняць у іх удзел і ўжо пасля вызначыцца, хто будзе кіраваць краінай у наступны прэзідэнцкі тэрмін.

Пасля гэтага большасць каментароў у розных сацыяльных сетках зводзяцца да аднаго тэзісу: «Хопіць ляяцца, скінем рэжым, а там будзем думаць і вольна абіраць». Менавіта гэта цяпер аб'ядноўвае такі супярэчлівы электарат трох кандыдатаў у прэзідэнты.

### Ідэальны кандыдат

Зразумела, такі фармат быў бы немагчымы без Святланы Ціханоўскай. Яна сталася ідэальным кандыдатам у прэзідэнты для дэмакратычна настроеных грамадзянаў Беларусі, і, падаецца, стане «ідэальным штормам» для Лукашэнкі.

Яе ад самага пачатку неяк не ўспрынялі ўсур'ёз. І прэтэндэнтам на пасаду кіраўніка краіны яна стала выпадкова, калі яе муж сядзеў па «адміністратыўцы» і не мог падаць дакументы ў ЦВК на ўласную рэгістрацыю. І падпісваліся за яе, дзякуючы мужу. І фактычны разгром штабоў Ціханоўскай, нібыта, павінен быў паспрыяць яе выхаду з прэзідэнцкай гонкі. І яе дзеці — не абы-якая кропка ціску.

Неўспрыняцце жанчыны ўсур'ёз і пагроза дзецьмі — вялікія памылкі ўлады. Бачна, кіраўнік краіны даўно забыўся, што такое раз'юшаная жанчына.



Фота www.tut.by

> **Бачна, кіраўнік краіны забыўся, што такое раз'юшаная жанчына**

Асабліва, калі яна ўжо выправіла дзяцей у «бяспечнае месца» за мяжу і можа цалкам аддацца мэце вызвалення свайго і чужых мужоў з-за кратаў. А найбольш эфектыўна гэта робіцца з пасады кіраўніка дзяржавы.

У старым афарызме гаворыцца, што прэзідэнтам павінен быць той, хто гэтага не хоча, а хто хоча — прэзідэнтам быць не павінен. Святлана Ціханоўская ніякім бокам не хацела быць прэзідэнтам, у яе няма ўладных амбіцый, і таму яна лёгка ідзе на кампрамісы і саюзы. Яна — дамаўляльная. І гэтая дамаўляльнасць якраз і спрацавала ў аб'яднанні большасці электарату.

Паводле даследавання расійскай кампаніі Tazeros Global Systems, пасля вывучэння з красавіка па чэрвень 6,93 мільёна ўнікальных ір-адрасоў з Беларусі, «рэйтынг лаяльнасці» Лукашэнкі складае 6,6%. У цэлым жа, паводле гэтага даследавання, абранне яго на наступны тэрмін падтрымліваюць толькі 3,8% карыстальнікаў інтэрнэту, а 62,6% лічаць, што ён павінен сысці. Пры гэтым 72% гатовыя галасаваць за любога кандыдата, акрамя дзеючага кіраўніка дзяржавы.

І гэтым «любым» можа стаць Святлана Ціханоўская. «Я пайшла на выбары дзеля любові!» — сказала яна на агітацыйнай сустрэчы на плошчы Бангалор у Мінску. Падаецца, больш добрага дэвізу перадвыбарчай кампаніі прыдумаць цяжка.

### Датэрміновае галасаванне

У такой сітуацыі выбары 9 жніўня без масавых і нахабных фальсіфікацый не абыдуцца. Дарэчы, як і заўсёды. Галоўная небяспека ў іх таксама вядомая — датэрміновае галасаванне. Але і з гэтым ва ўлады не ўсё ў парадку, бо яна разлічвала на «ціхія» выбары.

На так званых «парламенцкіх выбарах» увосень мінулага года ЦВК налічыў 6 мільёнаў 822 тысячы 740 выбаршчыкаў. Каго могуць загнаць на датэрміновае галасаванне? Канешне ж, вайскоўцаў і салдат тэрміновай службы (65 тысяч), міліцыю (каля 130 тысяч) і дзяржслужбоўцаў (умоўна 100 тысяч). Агулам гэта дае — з вялікім запасам — толькі каля 5% галасоў. Студэнты цяпер на вакацыях, іх не запалохаеш, напрыклад, пазбаўленнем інтэрнату.

Працяг на стар. 4 »

# Затрыманні на мірных акцыях 14 і 15 ліпеня. Лічбы і геаграфія

**Паводле інфармацыі праваабаронцаў «Вясны», на мірных акцыях супраць нерэгістрацыі кандыдатамі ў прэзідэнты Віктара Бабарыкі і Валерыя Цапкалы, а таксама на іншых акцыях салідарнасці (і пасля іх), якія праходзілі 14 і 15 ліпеня, у Беларусі былі затрыманыя як мінімум 420 чалавек.**

З іх у Мінску было затрымана як мінімум 329 чалавек: 303 — 14 ліпеня падчас стыхійнай акцыі пратэсту і 26 чалавек 15 ліпеня — калі людзей затрымлівалі за тое, што яны стаялі ў чарзе, каб падаць скаргі ў Цэнтрвыбаркам, ці проста праходзілі міма супрацоўнікаў АМАПу.

Акрамя Мінску затрыманні адбыліся яшчэ ў дзесяці гарадах краіны.

- Пружаны (14 ліпеня затрыманыя 7 чалавек, 2 асуджаныя на арышты).
- Гомель (14 ліпеня затрыманыя як мінімум 15 чалавек, 5 асуджаныя на арышты).
- Брэст (14 ліпеня затрыманыя 45 чалавек, 37 атрымалі штрафы і суткі).
- Салігорск (14 ліпеня затрыманыя і затым асуджаныя на арышт 2 чалавекі).
- Бабруйск (14 ліпеня затрыманыя як мінімум 4 чалавекі).
- Стоўбцы (14 ліпеня затрыманы і асуджаны на арышт 1 чалавек).
- Гродна (14 і 15 ліпеня затрыманыя 7 чалавек).
- Віцебск (на наступны дзень, 15 ліпеня, затрымана адна ўдзельніца акцыі 14 ліпеня).
- Барысаў (15 ліпеня затрыманыя 8 чалавек, 4 з іх атрымалі штрафы).
- Смаргонь (16 ліпеня затрымана адна ўдзельніца велапрабегу салідарнасці).

Агулам у рэгіёнах у перыяд з 14 па 16 ліпеня за ўдзел у акцыях было затрымана больш за 90 чалавек.

Больш за 170 судоў над часткай затрыманых на акцыях адбылося з 15 па 20 ліпеня. Затрыманых судзілі па артыкулах 23.34 КаАП (удзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве) і 23.4 КаАП (непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі). Як мінімум 51 чалавек за гэты час атрымаў у суме 581 суткі адміністрацыйнага арышту, больш за 70 чалавек — штрафы на агульную суму, якая перавышае 65 000 рублёў.

З пачатку бягучай выбарчай кампаніі 190 чалавек атрымалі агулам 2 607 сутак арышту па адміністрацыйных артыкулах, выкарыстаных у мэтах палітычнага пераследу. 333 чалавекі атрымалі штрафы агульным памерам больш за 265 275 рублёў (больш за 110 тысяч долараў). Праваабаронцам вядома як мінімум пра 1140 выпадкаў адвольных затрыманняў, якія адбыліся ў перыяд з 6 траўня па 20 ліпеня.

**spring96.org**

# Зміцер Паліенка асуджаны на 45 сутак адміністрацыйнага арышту

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Пра гэта «Новаму Часу» паведаміла жонка вязня Наста Паліенка.**

Дзяўчына кажа, што ёй патэлефанаваў бацька Змітра Паліенкі, з якім звязаўся сукамернік актывіста.

«Ён сказаў, што ў Дзімы не 35 сутак, а 45. Быў яшчэ адзін суд — ён думаў, што мы ў курсе, але мы былі не ў курсе, я 23 ліпеня збіралася яго сустракаць, — там яму далі 20 сутак. І быў яшчэ трэці суд, я так разумею, дзе яму далі яшчэ 10 сутак», — распавяла Наста Паліенка.

Яна спрабавала даведацца нешта ў Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў, але там інфармацыі ёй не далі. Адвакага туды таксама не пускаюць. Апроч таго на мінулым тыдні адвакат ездзіў у Першамайскі і Маскоўскі суды Мінска, але там яму нічога не сказалі.

«У яго быў пратакол па артыкуле 23.4 КаАП за супраціўленне супрацоўніку міліцыі, і гэты пратакол накіравалі на дапрацоўку. У чацвер адвакат ездзіў даведвацца, ці вярнуўся з дапрацоўкі пратакол, яму сказалі, што не. Відаць, нас ці падманулі, ці суд будзе пасля, ці нешта яшчэ», — гаворыць жонка зняволенага.

Анархісту Змітру Паліенку 8 ліпеня ў судзе Першамайскага раёна прысудзілі 15 сутак арышту за размешчаны ў фэйсбуку допіс з заклікам прыняць удзел у флэшмобе — па вечарах бразгаць з адчыненых вокнаў і балконаў пустымі рондалямі. У той жа дзень падчас перапынку яго апыталі ў межах заведзенай крымінальнай справы па абразе супрацоўніка міліцыі.

10 ліпеня над Змітром Паліенкам зноў адбыўся суд, вынік якога не паведамілі.

Паводле падлікаў Насты, муж павінен выйсці на волю 23 жніўня.

«Відаць, далі, каб было з запасам, — зазначае Наста Паліенка, якая звязвае арышт мужа з маючымі адбыцца 9 жніўня прэзідэнцкімі выбарамі. — Пакуль мы нічога не ведаем, але я думаю, што будуць яшчэ сюрпрызы».

# Аб'яднацца нацыяй

**Заснавальнік «Моцных навін» каментуе заявы пра тое, што «маргінальная апазіцыя» за 26 гадоў нічога не зрабіла.**

— Я сам — шматгадовы і паслядоўны крытык «маргінальнай апазіцыі», — піша Пётр Кузняцоў. — Аднак у той жа час я прысвяціў працы ў апазіцыйных арганізацыях 11 гадоў свайго жыцця, з 2004 да 2015-га, і тым, хто незадаволены «маргінальнай апазіцыяй», якая за 26 гадоў «нічога не зрабіла», хачу сказаць наступнае.

Па-першае, трэба ці перастаць хлусіць (калі гэта свядомая хлусня), ці вывучыць трохі найноўшую гісторыю. Усё тое, што робіцца цяпер, ужо было, прычым неадназорова. І аб'яднанні, і бангалоры. Усё тое ж самае, толькі іншае асяроддзе. Што на самай справе ўпершыню — тое, што адбываецца гэта ва ўмовах электаральнай большасці праціўнікаў дзейнай улады (гэта значыць, апазіцыі).

Другое і галоўнае. Кожнаму, хто спрабуе сказаць, што «маргінальная апазіцыя» за 26 гадоў нічога не зрабіла, было б карысна зразумець, што маргінальнай гэтая апазіцыя, якая была вельмі моцнай у 1990-я, стала за дзясяцігоддзі таму, што гэтай самай большасці, гэта значыць народу, яна была не патрэбная. Большасць усё задавальняла, большасць не хадзіла на плошчы і пікеты, не станавілася ў чэргі, каб запісацца ў партыі. Большасць займалася сваімі справамі — наладжвала жыццё і побыт так, як умела, для дасягнення максімальнага даступнага камфорту.

Сяроэжа Ціханоўскі тусіў з Сабчак, Бабарыка зараблаў бабкі ў расійскім банку, Цапкала выдатна сябе адчуваў у камандзе Лукашэнкі, рэстаратар Пракоп'еў абслугоўваў «эліту». І толькі Дашкевіч сядзеў у турме.

Большасць на працягу многіх гадоў жыла па прынцыпе «я ў палітыку не лезу». Пажыўшы добранька ў сваё задавальненне, пакуль не прыпякло, потым вылазіць з кустоў і бухцець: «Чаму вы мне за 26 гадоў нічога не зрабілі», — такая сабе грамадзянская пазіцыя.

Нават не буду казаць пра тых, хто за гэтыя гады прынёс сябе ў ахвяру. Быў забіты, сядзеў у турме, ратаваўся ў эміграцыі, пазбавіўся кар'еры, скончыў жыццё самагубствам. Тысячы і тысячы чалавек ахвяравалі сабой дзеля тых, каму было ўсё роўна і хто займаўся сваімі справамі — дзеля таго, каб потым гэтыя, каму было ўсё роўна, сказалі ім, што яны нічога не зрабілі. Тут лёгка скаціцца ў эмоцыі, але я хачу пакінуць рацыю.

Трэба правільна разумець сітуацыю, у якой аказалася сёння беларускае грамадства. Трэба прызнаць, што за ўвесь гэты час усе мы паказалі сябе з досыць нядобрага боку, калі дазволілі давесці краіну да такога.

«Бітыя» могуць сварыцца на «нябітых» за тое, што тыя былі ўбаку, але ўсё роўна карысна было б спытаць сябе: а што рабілі не так, калі выйшла тое, што выйшла?

«Нябітыя» могуць лаяцца ў бок апазіцыі, але пачаць я б раіў з пытання самому сабе: а чаго ты маўчаў усе гэтыя гады? Усё нармальна было?

Калі ў нас кожны можа прад'явіць прэтэнзіі кожнаму, магчымыя два сцэнары калектыўных паводзін. Мы можам бясконца лаяцца і выстаўляць адзін аднаму «рахункі» — гэтага хоча і чакае ад нас улада.

Мы таксама можам аб'ядацца не штабамі, а нацыяй. Адкласці ўзаемныя крыўды ды папрокі і знайсці нацыянальны кансенсус у тым, што гэтая ўлада павінна сысці. І дзейнічаць разам на вынік, таму што па-іншаму выніку не будзе. А ўжо потым, каму будзе моцна трэба, можна высвятляць адносіны на прынцыпах роўнай канкурэнцыі ў свабодных канкурэнтных выбарах.

Другая мадэль — гэта вельмі складана. Няпроста і цяжка. Але гэта наш варыянт, і ён адзіны. Іншага нам не дадзена.

Калі здолеем — будзем жыць.

**Паводле gazetaby.com, пераклад НЧ**

# Трансфармаваць міліцыю ў нешта больш гуманнае ў межах гэтай сістэмы немагчыма

Віталь ЦЫГАНКОЎ, Радыё Свабода

**Кіраўнік Belarus security blog Андрэй Паротнікаў канстатуе, што ўлада спрабуе ўцягнуць войска ў палітычныя працэсы і аналізуе дзеянні міліцыі падчас разгонаў апошніх акцыяў пратэсту.**

— Апошнія тыдні на БелТА рэгулярна выходзяць матэрыялы, дзе камандзіры розных вайсковых частак і брыгадаў расказваюць, як у Беларусі ўсё добра і чаму яны лічаць, што трэба захоўваць цяперашні лад, не дапусціць ягонага разбурэння. Адбываецца ўцягванне войска ў палітычныя працэсы — чаго раней не было.

З чым гэта звязана? Найперш, з тым, што войска, паводле сацыялагічных даследаванняў, — адзін з трох найбольш паважаных у грамадстве інстытутаў. Таму гэта спроба рэжыму абаперціся на аўтарытэт арміі. Іншы момант звязаны з Аляксандрам Лукашэнкам, які 16 ліпеня заявіў, што чалавек, які не служыў у войску, не можа быць галоўнакамандуючым. Гэта прапаганда, накіраваная на самых вайскоўцаў, Лукашэнка спрабуе ўзмацніць свае пазіцыі ў арміі, дэманструючы, што ён «адзін з іх» альбо, прынамсі, разбіраецца ў гэтай сферы.

Пры гэтым важна нагадаць, што армія падчас кіравання Лукашэнкі заўсёды была аўтсайдарам з гледзішча бюджэтных уліванняў, фінансавалася па астаткавым прынцыпе.

Падрыхтаваная (тут не было экспромту) заява Раўкова — гэта, безумоўна, спроба запалохаць. Маўляў, калі АМАП не дасць рады, то мы выведзем на вуліцы танкі.

***— Наколькі супрацоўнікі сілавых структураў гатовыя выканаць любы загад, у тым ліку незаконны?***

— Гэта вельмі складанае пытанне. Сілавыя структуры — частка грамадства, і для іх характэрныя рознанакіраваныя ўплывы. Як паказвае практыка і гісторыя, замежны досвед зрынання недэмакратычных рэжымаў — сілавыя структуры могуць дэманстраваць лаяльнасць даволі працяглы час, але з нейкага моманту могуць адысці ад кіраўніка дзяржавы, калі бачаць, што ён губляе грамадскую падтрымку.

Беларускія сілавікі лаяльныя беларускай дзяржаве. Лукашэнка значную частку свайго кіравання абапіраўся на пэўную грамадскую падтрымку. Але сёння відавочна, што гэтая падтрымка імкліва зніжаецца. Я думаю, гэта разумее і сам Лукашэнка, менавіта таму яны апелююць і да вайскоўцаў, іх вернасці дзяржаве, і спрабуюць запалохаць грамадства.

***— Як матэрыяльна сябе адчуваюць сілавыя структуры?***

— Усё спаснаецца ў параўнанні, але калі мы кажам пра малодшых афіцэраў у войску, то ўзровень іх заробкаў параўнальны з заробкам у «Макдональдсе». Каля 900 рублёў. Але ўзровень псіхалагічнага ціску неспастаўны, працоўны час неабмежаваны. З гледзішча сацыяльных гарантыяў, вайскоўцам трошкі прасцей вырашыць жыллёвае пытанне, з дзяржаўнай падтрымкай, плюс ранняя пенсія. На сёння заробак у войску — гэта не тое, што можа зацікавіць амбітную і здольную моладзь. І гэта мы бачым паводле ўзроўню людзей, якія паступаюць у вышэйшыя навучальныя ўстановы сілавых структураў, па праблемах камплектавання і гэтак далей.

***— Як бы вы ацанілі паводзіны сілавых структураў падчас акцыяў пратэсту за апошнія месяцы? Прыход Караева нешта змяніў у міліцыі?***

— Насамрэч, нічога новага гэтыя акцыі пратэсту не паказалі. МУС застаецца рэпрэсіўнай машынай, якой яно было ўсе гады кіравання Лукашэнкі. Прынцыповых зменаў тут няма. Безумоўна, мы назіраем спробу неяк патынкаваць фасад ведамства, палепшыць ягоны імідж. За першыя 4 месяцы на 57 працэнтаў знізілася колькасць прыцягненняў да адміністрацыйнай адказнасці.

МУС знаходзіцца ў вельмі жорсткіх рамках, яны могуць ісці насустрач грамадзянам да таго пункту, пакуль гэта не закранае палітыкі. Трансфармацыя ведамства ў нешта больш гуманнае ў межах гэтай сістэмы немагчымая.

**Друкуецца са скарачэннямі**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Грошай няма І не будзе

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Шмат разоў мы казалі, што грамадзяне і ўлада жывуць у розных, паралельных сусветах. Але калі гэтыя сусветы перасякаюцца, улады атрымліваюць непрыемныя падарункі. І здзіўляюцца: «Чаму?» А народ кажа: «А таму што!» Таму што рэальнасць — іншая.**



Фота www.politikus.ru

Днямі Лукашэнка абвінаваціў кіраўніцтва Нацбанка ў тым, што яно правaліла нагляд над камерцыйнымі банкамі. «На прыкладзе Белгазпрамбанка бачым, што працы — непачаты край. Павінен сказаць, што старшыня праўлення і кіраўніцтва банка нясуць персанальную адказнасць за тое, што адбываецца ў нашых камерцыйных банках», — заявіў Лукашэнка. І крышачку абнавіў кіраўніцтва Нацбанка.

Беларусы ж на выбрыкі свайго кіраўніка адрэагавалі яшчэ задоўга да таго, як ён вырашыў пакіраваць Нацбанкам. Усе ж разумеюць, што «справа Белгазпрамбанка» — палітычная. А калі правадыр пачынае ўмешвацца куды б ні было — чакай бяды. Мы ўжо пісалі пра тое, што з гэтай палітычнай справай быў падарваны давер да банкаўскай сістэмы ў цэлым, і апошнія лічбы таго самага Нацбанка гэта пацвердзілі.

У чэрвені 2020 года сегмент рублёвых дэпазітаў фізічных асоб практычна замёр з прычынаў пандэміі каранавіруса і рэйдарскага захопу Белгазпрамбанка. Тэрміновыя ўнёскі беларусаў у банкі ў чэрвені скараціліся на 5,7 мільёна рублёў, а пераводы выраслі на 38,1 мільёна рублёў.

З пачатку года аб'ём тэрміновых рублёвых укладаў знізіўся на 99,2 мільёна рублёў, або 1,93%, вынікае са справаздачы Нацбанка Беларусі.

Валютныя дэпазіты фізічных асоб на 1 ліпеня склалі 5 мільярдаў 635,6 мільёна долараў. У параўнанні з папярэднім месяцам яны знізіліся на 132,2 мільёна долараў, з пачаткам года — на 580,7 мільёна долараў.

У чым небяспека падобных паводзінаў насельніцтва?

Як тлумачыць фінансавы аналітык Вадзім Іосуб, патрабаванне знізіць стаўку рэфінансавання добрае для тых, у каго ёсць крэдыты. І зусім не добрае для тых, у каго ёсць грошы. Бо ўслед за стаўкай рэфінансавання зніжаецца не толькі стаўка па крэдытах, але і стаўка па дэпазітах. Вынік — укладчыкам зніжэнне стаўкі не падабаецца, і яны забіраюць свае грошы з банкаў. У банкаў становіцца менш рэсурсаў. А менш рэсурсаў — няма чым крэдытаваць, напрыклад, прадпрыемствы.

З аднаго боку, прадпрыемствам, канешне, радасць: крэдыты сталі таннейшыя. Але што ім з таго, калі грошай на выдачу гэтых крэдытаў у банкаў няма?

А з чаго ў банках скончыліся грошы? З таго, што насельніцтва пачало забіраць грошы з банкаў. А чаго яно пачало забіраць свае грошы? Таму што нехта лічыць сябе разумнейшым за прафесіяналаў і ўлез, куды не трэба было ўлазіць.

Сітуацыя, між тым, ніяк не аптымістычная. Паводле Белстату, аптовы тавараабарот у першым паўгоддзі ўпаў амаль на 9%, сфера грамадскага харчавання страціла 21,2%. Грузаперавозчыкі перавезлі на 8,8% менш тон грузаў, а колькасць пасажыраперавозак на ўсіх відах транспарту знізілася на 28,4%. А тут яшчэ і інфляцыя не ўкладваецца ў гадавыя паказчыкі: кошты ў чэрвені гэтага года сталі на 5,2% вышэйшымі, чым год таму, хаця гадавая інфляцыя запланавана ў памеры не больш за 5%.

Калі звесці прыватнае да агульнага, то за першыя паўгода ВУП краіны склаў мінус 1,7% да першага паўгоддзя 2019 года. Падавалася б, нас чакае як мінімум спад эканомікі. Але міністр эканомікі Аляксандр Чарвякоў аптымістычна заяўляе, што мы адновім эканамічны рост у другім паўгоддзі і выйдзем на нулявы прырост ВУП па выніках 2020 года.

Так і хочацца сказаць: «Чакайце, чакайце!» А як жа прагноз сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны на 2020 год, зацверджаны Лукашэнкам? Па ім у гэтым годзе ў нас павінен быць рост ВУП у 2,8%! А цяпер як найвялікшае дасягненне нам абяцаюць нулявы ВУП? Па-мойму — яскравы паказчык таго, як у нас працуе ўрад і колькі макулатуры ён выпрацоўвае на радасць нашым папярова-цэлюлозным камбінатам.

Але ёсць і яшчэ адна праблема. Па словах таго ж Вадзіма Іосуба, наша падзенне ВУП меншае, чым ва ўсіх суседзяў таму, што ў нас ВУП лічыцца (зноў жа, колькі мы пра гэта казалі) па створанай, а не па прададзенай прадукцыі. То-бок, шмат нашага ВУП ляжыць на складах, не прыносіць аніякай карысці, і больш за тое, стварае страты, бо тыя самыя склады таксама трэба за нешта ўтрымліваць. У нас паўтараюць як замову: «Вось у суседзяў крызіс скончыцца, а мы ўжо ўсё вырабілі і прададзім ім усё», — але няма ніякай гарантыі, што гэтыя складскія запасы будуць прададзеныя.

Такім чынам: прадпрыемствы працуюць на склад, прадукцыю прадаць немагчыма. Заробкі плаціць трэба. Раней на выплату заробкаў прадпрыемствы маглі б узяць крэдыты, але крэдытаў банкі не даюць, бо ў банкаў грошай няма. Таму што народ забірае грошы з банкаў з-за таго, што Лукашэнка вырашыў «ручкамі» пакіраваць стаўкай рэфінансавання.

Вы разумееце, якім чынам толькі адно нягеглае рашэнне дзейнага кіраўніка дзяржавы выклікае крызісныя сітуацыі ў эканоміцы?

А цяпер давайце паглядзім, што нам абяцае кандыдат у прэзідэнты Лукашэнка А.Р.? А абяцае ён нам — ніякіх рэформаў, але павелічэнне заробкаў дактарам і настаўнікам у два разы. Узнікае толькі адно пытанне: як ва ўмовах нулявога росту ВУП можна падвысіць заробкі ў бюджэтнай сферы ў два разы?

Зразумела, як — толькі ўключыць друкарку ў Нацбанку. Але ўсе мы ведаем, да чаго гэта прыводзіць. І дзякуй Богу, пакуль Нацбанкам па-ранейшаму кіруе Павел Калаур, які друкарскі станок запускаць адмаўляецца. Але ў нас усё ўпіраецца ў тое, што ўсе рашэнні ў краіне прымае адзін, і, шчыра скажам, не вельмі кампетэнтны чалавек. І хто ведае, што стрэльне яму ў галаву заўтра.

Міжнародныя фінансавыя арганізацыі прадракаюць Беларусі зніжэнне ВУП паводле вынікаў года на 6%. Калі паглядзець на мінулыя гады, то самае вялікае адмоўнае значэнне ВУП у нас было ў 1995 годзе — мінус 10,4%. Так што з пункту гледжання глыбіні падзення эканомікі ў 2020 годзе Беларусь чакае горшы паказчык падзення ВУП з 1995 года.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Віктар Бабарыка



**Экс-банкір даручыў сваім адвакатам запатрабаваць абвяржэння ад Белтэлерадыёкампаніі за сюжэт «Справа Белгазпрамбанка: куды цяклі доларавыя рэкі».**

Пра гэта паведамілі адвакаты Бабарыкі Дзмітрый Лаеўскі і Наталля Мацкевіч. Гаворка ідзе пра сюжэт, у якім была паказаная заява Лукашэнкі, што Бабарыка «зарыдаў, калі не зарэгістравалі, і пачаў даваць паказанні».

«Мы наведвалі Віктара Дзмітрыевіча, абмяркоўвалі гэтае пытанне. Віктар Дзмітрыевіч вырашыў накіраваць у Белтэлерадыёкампанію на падставе Закона "Аб СМІ" патрабаванне аб абвяржэнні гэтых звестак і асобных сцвярджэнняў з рэпартажу "Справа Белгазпрамбанка: куды цяклі доларавыя рэкі" як не адпавядаючых рэчаіснасці і такіх, што ганяць яго гонар і годнасць. Гэта патрабаванне ён падпісаў пры нас і перадаў адміністрацыі СІЗА для накіравання па адрасе», — паведамілі адвакаты.

## Алег Краўчанка



**Намеснік міністра замежных спраў Алег Краўчанка прызначаны амбасадарам Беларусі ў ЗША. Беларускага амбасадара ў Амерыцы не было 12 гадоў.**

Да «пахаладання» ў двухбаковых адносінах Краўчанка ўжо працаваў у амбасадзе Беларусі ў ЗША. У 2007 годзе ён быў дарадцам амбасады, з 2008 па 2014 — часовым паверaным у справах Беларусі ў ЗША. У 2014 годзе Краўчанка вярнуўся ў Мінск і ўзначальваў аддзел ЗША і Канады ўпраўлення Амерыкі, а затым — Упраўленне Амерыкі МЗС. На пасаду намесніка міністра быў прызначаны ў 2017 годзе.

У апошнія некалькі гадоў Алег Краўчанка не раз наведваў Вашынгтон з афіцыйным візітам і прадстаўляў Беларусь на розных перамовах і сустрэчах з амерыканскімі калегамі.

Нагадаем, у Беларусі і ЗША з 2008 года няма амбасадараў. Іх месца займаюць часовыя паверaныя. Пасля ўвядзення ЗША санкцый у дачыненні да канцэрна «Белнафтахім», амбасадар Беларусі Міхаіл Хвастоў быў адкліканы з Вашынгтона для кансультацый, а Мінск па патрабаванні беларускага боку пакінула пасол Карэн Сцюарт. Колькасць амерыканскіх дыпламатаў у краіне па патрабаванні беларускага боку была скарочаная з 35 да 5. Паступова штат амерыканскіх дыпламатаў быў пашыраны да 10 чалавек.

У сакавіку 2019 года кіраўнік МЗС Беларусі Уладзімір Макей апавясціў амерыканскі бок пра зняцце абмежаванняў на колькасць амерыканскіх дыпламатаў. Дзяржсакратар ЗША Майкл Пампеа падчас свайго візіту ў Мінск 1 лютага 2020 года заявіў, што найбліжэйшым часам ЗША прызначаць амбасадара ў Беларусь.

Амерыканскія СМІ назвалі імя дыпламата, які можа ўзначаліць амбасаду ЗША ў Беларусі, — Джулі Фішэр, якая цяпер займае пасаду намесніка памочніка дзяржсакратара ЗША па Заходняй Еўропе і ЕС.

## Васіль Бялько



**Мастак і сузаснавальнік крамаў Zorka Venera выставіў на аўкцыён незвычайны лот: залатую скарбонку ў выглядзе аўтазака.**

«Мяне клічуць Васіль Бялько, я сузаснавальнік крам Zorka Venera. У нас рэзка скончыліся ўсе піны з вашай любімай машынкай, але з'явіўся галоўны экспанат — Golden Luxury Autozak. Гэта першая і адзіная ў сваім родзе залатая скарбонка-аўтазак, якую я зрабіў сваімі рукамі», — паведаміў ён у сацсетках.

Залаты аўтазак выстаўлены на дабрачынны аўкцыён. Усе атрыманыя сродкі мастак плануе аддаць ініцыятыве дапамогі рэпрэсаваным і іх сем'ям #byhelpby. Аўкцыён праходзіць у запісе Zorka Venera ў Instagram.

«Вельмі цікава назіраць за тым, як мяняюцца сэнсы, і з "машыны страху" аўтазак ператвараецца ў сімвал унутранай свабоды, і ў наступнай серыі мы даведаемся, якім сімвалам з'яўляюцца "тыя самыя гадзіннікі" з зорным цыферблатам!» — дадае Васіль Бялько.

24 ліпеня 2020 | № 27 (686) Новы Час

« Працяг.
Пачатак на на стар. 1

# «Ідэальны шторм» для Лукашэнкі

Усе астатнія, каго будуць вымушаць прагаласаваць датэрмінова, — дактары, настаўнікі, працоўныя дзяржпрадпрыемстваў, etc. — могуць толькі адмовіцца галасаваць датэрмінова.

Пытанне, ці зробяць яны гэта і якія апраўданні для сябе знойдуць, калі не зробяць? Таму што пасля вясны–2020 усе размовы, што «нас прымусілі, нам пагражалі, нам абяцалі непрыемнасці» і гэтак далей, — «размовы для бедных». Увесну ў інтэрнэце ўсплыло багата фактаў, як людзі цэлымі працоўнымі калектывамі адмаўляліся падпісвацца за вылучэнне кандыдатам у прэзідэнты «дарагога Аляксандра Рыгоравіча». Гэтым людзям таксама абяцалі «непрыемнасці». Але абсалютнай большасці тых, хто адмовіўся паставіць свой аўтограф за новы тэрмін Лукашэнкі, за гэта НІЧОГА НЕ БЫЛО. Вось проста — нічога! Ніякіх наступстваў!

На гады майго студэнцтва прыпаў рэферэндум 1996 года. Ужо тады нашая дэкан па выхаваўчай рабоце, якую студэнты баяліся да дрыжыкаў, абыходзіла інтэрнаты з «ласкавай прапановай» галасаваць датэрмінова. Але ў нашым пакоі мы цвёрда сказалі: «Не. Галасаванне — толькі ў дзень галасавання». І нам за гэта... Вы здагадаліся — нічога не было.

Ці не варта адзін раз набрацца мужнасці, каб потым ніколі не баяцца?

### Нечаканы экзіт-пол

На мітынгу ў Дзяржынску Вераніка Цапкала заклікала людзей прыходзіць на выбарчыя ўчасткі з самаробнымі белымі бранзалетамі. Тое ж самае яна паўтарыла і на мітынгу ў Мінску. Сяргей Марцалеў адзначыў у сувязі з гэтым, што «паліттэхнолагі пратэстных кандыдатаў вызначыліся, як адзначаць сваіх прыхільнікаў» і заўважыў: трэба было зрабіць гэта месяц таму.

Мажліва, гэта сапраўды трэба было зрабіць раней, але і цяпер не позна. Галоўнае — данесці гэтую ідэю да як мага большай колькасці сваіх выбаршчыкаў. Справа ў тым, што такія белыя бранзалеты карысныя не ў пратэстах, а якраз на выбарчых участках.

Зразумела, што выбары ў нас — таемныя, і ніхто не абавязаны раскрываць, за каго ён галасаваў. Гэтым таксама карыстаюцца фальсіфікатары іх вынікаў. Але, калі назіральнікі будуць бачыць чалавека з белым бранзалетам, яны дакладна будуць ведаць: ён не галасуе за Лукашэнку. І, адпаведна, яны будуць лічыць не толькі звыклую колькасць людзей, што прыйшлі на выбарчы ўчастак, але і адсочваць колькасць тых, у каго ёсць белыя бранзалеты.

Разыходжанні ў колькасці «белабранзалетнікаў» і колькасці тых, хто прагаласаваў «не за Лукашэнку» ў пратаколе падліку галасоў будзе яўна сведчыць пра фальсіфікацыю вынікаў галасавання.

Па словах прадстаўніцаў аб'яднанага штабу, у мінулыя выхадныя адпрацаваў «хакатон», на якім пад 200 IT-шнікаў выпрацоўвалі ідэі, як альтэрнатыўна падлічыць галасы і абараніць свой выбар. Ужо з'явілася анлайн-платформа для назірання за выбарамі, якая дасць мажлівасць у рэальным часе сачыць за яўкай выбаршчыкаў. Гэта вызваліць увагу назіральнікаў, каб адсочваць тыя самыя белыя бранзалеты. Так што ідэя з упрыгожваннямі падаецца даволі перспектыўнай.



Фота www.symbal.by

### Хопіць палохацца рускіх танкаў!

Многія эксперты палохаюць тым, як адрэагуе на выбары Масква. Шмат хто непакоіцца, што ў выпадку змены ўлады ў Беларусі ўзнікне нейкі «данбаскі сцэнар», «руская вясна» і гэтак далей. На мой погляд, такі сцэнар малаверагодны.

Найперш, Пуцін пачынаў «маленькія пераможныя войны» ў той час, калі яму трэба было паказаць сябе «лідарам нацыі». Гэтым разам ён паспяхова правёў рэферэндум па змене Канстытуцыі, і бліжэйшым часам яго ўладзе нічога не пагражае. Таму ў расійскіх правадыроў няма падставаў дзейнічаць брутальна.

З'яўленне ў Беларусі расійскіх танкаў будзе азначаць новыя непрыемнасці для Расіі. Беларусь — гэта не Крым, і нават не Данбас. Гэта (пакуль што) адзіная тэрыторыя, якую Масква свабодна скарыстоўвае для транзіту на Захад. Сінявокую нездарма параўноўвалі з «бутэлькавым рыльцам» для Расіі. Калі адбудзецца ўзброенае ўварванне ў Беларусь, найпершай санкцыяй ад Еўропы можа быць закрыццё транзіту на беларускіх межах. Улічваючы складаныя адносіны Расіі з Украінай і краінамі Балтыі, ствараць сабе праблемы з транзітам на найбуйнейшы еўрапейскі рынак Масква наўрад ці захоча.

Калі пачалася вайна ў Данбасе, міжнародная супольнасць усур'ёз падумвала адрэзаць Расію ад сусветнай сістэмы міжбанкаўскіх камунікацый SWIFT — а гэта азначае практычна пазбаўленне знешняга гандлю. Калі падзеі, аналагічныя данбаскім, разгорнуцца ў Беларусі, сур'ёзных санкцый Расія не міне. У тым ліку можа быць і адключэнне SWIFT.

Пакуль Беларусь застаецца адзінай еўрапейскай краінай, якая з'яўляецца саюзнікам Расіі ў міжнародных структурах, пра што сведчыць нашае галасаванне ў ААН па розных «украінскіх» рэзалюцыях. То-бок, мы падтрымліваем свайго саюзніка нават тады, калі нам гэта не выгадна. Калі Расія рашыцца на анексію Беларусі, яна гэтага саюзніка страціць.

Апроч таго, беларусы ўспрымаюцца шырокім колам расіянаў як ці не апошні брацкі народ, які застаўся каля іх. І гвалтоўныя дзеянні ў дачыненні да «братоў» будуць успрыняты негатыўна менавіта расійскім народам. Канешне, расійская прапагандысцкая машына можа за тры месяцы ператварыць «братоў» у «бандэраўцаў», але на гэта ўсё ж трэба час.

Усе рацыянальныя аргументы — супраць «данбаскага сцэнару» ў Беларусі. Маскве прасцей дамовіцца з любым наступным беларускім кіраўніком — канешне, калі гэта будзе не недамаўляльны Зянон Пазьняк.

### Небяспека, адкуль чакалася

А вось наконт дзеянняў Лукашэнкі ў наступную кадэнцыю — ні ў чым нельга быць упэўненым.

Калі я цяпер гляджу на паводзіны кіраўніка Беларусі, мне згадваецца дон Румата з твору братоў Стругацкіх «Цяжка быць богам». Там таксама быў свой «Лукашэнка» — дон Рэба. І на фінальным этапе дон Румата тлумачыць: «Мы тут тлумім галовы, дарэмна спрабуючы ўціснуць складаную, супярэчлівую, загадкавую постаць арла нашага дона Рэбы ў адзін шэраг з Рышэлье, Некерам, Такугавай Іэясу, Монкам, а ён аказаўся дробным хуліганам і дурнем! Ён аддаў і прадаў усё, што мог, заблытаўся ў сваіх задумах, да смерці спалохаўся і кінуўся ратавацца да Святога Ордэна!»

Лукашэнка — гэта наш дон Рэба. Ён 15 гадоў абяцае заробак «па пяцьсот» і 10 гадоў абяцае падвоіць яго дактарам і настаўнікам. Ён набраў крэдытаў і пабудаваў бессэнсоўную АЭС за 10 мільярдаў доляраў, якія няма чым аддаваць. Ён паставіў краіну ці не ў поўную залежнасць ад расійскага рынку, а яго «дыверсіфікацыя экспарту» не працуе. Ён стварыў «вертыкаль улады», якая трымаецца выключна на страху, але не ў стане вырашыць праблемы эканомікі і народа. І ён кінуў свой народ сам-насам з эпідэміяй COVID-19, якая яшчэ не скончылася.

Усе эканамісты прадракалі велізарны крызіс у 2020-м — і мы яго яшчэ не бачым, бо заклапочаныя той самай пандэміяй. А калі пабачым — нам стане млосна. І, дзеля захавання хаця б рэштак улады, Лукашэнку нічога не застанецца, як кінуцца ратавацца да «Святога Ордэна» — Масквы.

Гэта цяпер ён крычыць, што ён — ці не адзіны «абаронца незалежнасці Беларусі» і «гарант яе суверэнітэту». А насамрэч менавіта ён увесь гэты час «гуляў у інтэграцыю», так і не апрылюдніў (насуперак абяцанням) ніводную з «дарожных карт паглыбленай інтэграцыі», не кажучы ўжо пра «31-ю дарожную карту». І няма сумневаў: каб збегчы ад праблемаў і адказнасці, а таксама пад вялізным ціскам Масквы, ён здасць суверэнітэт і незалежнасць і падпіша ўсё, што ад яго патрабуецца.

Так што небяспека незалежнасці і суверэнітэту сыходзіць не ад «рускіх танкаў» і міфічных «прарасійскіх кандыдатаў».

### І астатнія

Прэзідэнцкую кампанію вядуць яшчэ тры кандыдаты — Андрэй Дзмітрыеў, Сяргей Чэрачань і Ганна Канапацкая.

Дзмітрыеў некалькі разоў сустрэўся са сваімі выбаршчыкамі ў дазволеных месцах, у тым ліку на той жа плошчы Бангалор. У часе сустрэчы ён сказаў: «Мы са Святланай Ціханоўскай ідзем адным фронтам, у нас абсалютнае адзінства мэтаў і задач, я гатовы да каардынацыі і сумесных дзеянняў — гэта наогул без пытанняў. Што тычыцца далейшых крокаў, то тут трэба глядзець, як будзе развівацца кампанія. Разумныя людзі ўжо ўбачылі, што наскокам нічога не будзе, ад таго, што мы ўсе такія добрыя, пераменаў не будзе, 9 жніўня — не выбары, а барацьба за выбары». І, таксама, як і Святлана Ціханоўская, сказаў, што пасля 9 жніўня варта правесці новыя, сумленныя і празрыстыя выбары.

Улічваючы тое, што раней Дзмітрыеў падтрымаў дэкларацыю Бабарыкі аб сумленных выбарах, а таксама прапанаваў арганізаваць адзінае назіранне, можна нават падумаць, што ён — чарговы «запасны варыянт» на выпадак, калі ЦВК намалюе Святлане Ціханоўскай некалькі папярэджанняў і здыме яе з выбараў. Калі гэтага не адбудзецца, цалкам верагодна, што Дзмітрыеў здымецца сам — зразумела, на карысць Ціханоўскай.

Сяргей Чэрачань — дзіўны «кандыдат-фантом», які не праяўляе ўвогуле ніякай актыўнасці. За тыдзень пасля рэгістрацыі пра яго нават не чутно.

А вось Ганна Канапацкая працягвае сваю кампанію ў рэчышчы «ўсе ідыёты, адна я — д'Артаньян». Яна чарговым разам абвінаваціла сваіх нават не праціўнікаў — канкурэнтаў — у «руцэ Масквы» і адмовілася ад тэледэбатаў: нібыта гэта ўсё — клаунада, а ёй «яшчэ краінай кіраваць».

Большасць інтэрнэт-каментатараў прапануюць выклікаць жанчыне санітараў і цікавяцца, ці павінен кандыдат у прэзідэнты прадстаўляць разам з дэкларацыяй аб даходах даведку пра сваё псіхічнае здароўе. Але я далёкі ад таго, каб лічыць, што ў экс-дэпутаткі і кіраўніцы юрыдычнай агенцыі «паехаў дах». Да таго ж, узнікаць «зорнай хваробе», прыкметы якой яна яскрава дэманструе, нібыта, няма з чаго.

Канапацкая настолькі капіруе стыль паводзінаў і дзеянні Лукашэнкі, што ўзнікае не менш вар'яцкая думка: а ці не спрабуе Ганна Анатольеўна разарваць на часткі сталы электарат дзейнага кіраўніка? Для яго выбарцаў «Лукашэнка ў спадніцы» можа падацца прывабным варыянтам, і, верагодна, нейкія 3–5% Канапацкая ў яго «адкусіць». Асабліва гэта тычыцца электарату жаночага. А ва ўмовах, калі рэйтынг беларускага гаранта і так ніжэй за плінтус, гэтыя 3–5% могуць быць вельмі важныя.

Можа, Ганна Анатольеўна ахвяруе сабою дзеля агульнай справы?

### Там, за туманам...

Мы жывем у цікавы час, калі мы самі можам стварыць сваю будучыню. Пакуль што ніякіх цмяных яе варыянтаў не праглядаецца. «Элегантная перамога» Лукашэнкі дорага яму абыдзецца: як лічыць палітолаг Андрэй Казакевіч, кіраванне краінай нелегітымнай меншасцю немагчыма. «Гэта будзе вельмі складана, у першую чаргу, псіхалагічна для ўсіх у гэтай сістэме, складана жыць і працаваць у рэжыме навакольнай нянавісці. І ў такім рэжыме доўга, думаю, не вытрымаць», — сказаў ён рэсурсу thintanks.by.

Ужо цяпер у інтэрнэце з'явіліся фота з надпісамі кшталту: «Я доктар, і калі на вуліцы выйдзе АМАП, я не выйду на працу». Усеагульны страйк пасля 9 жніўня можа адбыцца сам сабой, а міліцыю да станкоў не прыставіш.

Падаецца, ва ўлады застаецца адзін варыянт годнага выйсця з сітуацыі — насуперак сваёй прыродзе сумленна падлічыць галасы і ціхенька, без узрушэнняў, сысці ў нябыт. Толькі гэты варыянт прадугледжвае існаванне незалежнай Беларусі і адсутнасць грамадзянскага супрацьстаяння.

Усе астатнія варыянты так ці інакш вядуць да супрацьстаяння. Пытанне толькі, у якой форме яно адбудзецца: з «Плошчай» і ахвярамі альбо праз усеагульны страйк і поўны калапс эканомікі. Таму, хто як, а я пайшоў рабіць белы бранзалет.

***P.S.** «Ідэальным штормам» метэаролагі называюць збег абставінаў, якія павялічваюць разбуральную моц стыхіі ў некалькі разоў.*

Беларусь Эканамічная

САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНЫ ПРАЕКТ «НОВАГА ЧАСУ» | novychas.by





# Хто ідзе ў фермеры?

Павел КІРЫЛАЎ

**«Заспелі мяне на каленях на зямлі. Вакол кветак завіхаюся», — кажа мне па тэлефоне адзін з першых беларускіх фермераў Уладзімір Матусевіч з вёскі Мацкі Мінскага раёна.**



Кветкі ён вельмі любіць, цяпер часу на іх мае болей, бо гаспадаркай ужо кіруе сын. Значыць, сфарміравалася фермерская дынастыя: ці гэта не грунт для адраджэння нашай сельскай гаспадаркі без уладных дырэктываў зверху, каб была праца на вёсцы, і яна не абязлюднела?

## Беларуская мара

Уладзімір Матусевіч тутэйшы — родам з Мацкоў. Быў марскім чалавекам: пасля заканчэння Талінскай мараходнай вучэльні абышоў на акіянскім рэфрыжэратары ўвесь свет ад Аўстраліі да Амерыкі. Затым каля дзесятка гадоў ачольваў адзін з мінскіх ЖЭСаў, але малая радзіма цягнула і клікала назад. Вярнуўся. Гэта быў 1988 год, разгар эпохі Перабудовы ў Савецкім Саюзе. Час эканамічных катаклізмаў і новых магчымасцяў для ініцыятыўных і працавітых.

Матусевіч пайшоў у саўгас звычайным палаводам, скарыстаўся шчаслівай магчымасцю ўзяць у арэнду некалькі гектараў зямлі пад кармавыя буракі. Мясцовыя глядзелі як на дзівака. Араў-палоў, на каленях пратаптаў тысячы кіламетраў. Ды так удала сталася, што зарабіў за лета-восень па тых часінах шалёныя грошы. Пад 10 тысяч савецкіх рублёў — такія сумы тады можна было зарабіць хіба што ў Сібіры на залатых прыісках. На наступны год буракова плённы подзвіг паўтарыўся.

Як тут не станеш фермерам!? Стартавы капітал, здабыты сваімі мазалямі, меўся, жаданне таксама, і акрылены поспехам Уладзімір Матусевіч пачаў пашыраць свае арэндныя плошчы. Скончыў у 1991 годзе адмысловыя фермерскія курсы пры Міністэрстве сельскай гаспадаркі і стаў адным з першых у Беларусі фермераў. Згадвае, што атрымаць зямлю пад фермерскую гаспадарку было складана, бюракраты цынічна футболілі: купі трактар — будзе табе зямля, ішоў па трактар — навошта табе тэхніка, калі не маеш дзялкі? Урэшце здолеў набыць трактар і атрымаць каля 20 гектараў зямлі, дзве трациіны з якіх выдзелілі няўдобіцамі.

Пачалі са шваграм, які кінуў у сталіцы шафёрства, перабраўся на вёску і стаў кампаньёнам, думаць пра тое, чым заняцца. Выбар аказаўся слушным. Цяпер у Матусевіча 40 гектараў і спецыялізацыя на гародніне, перадусім на капусце. На абшарах фермерскай гаспадаркі даўно ўзведзены на некалькі паверхаў вялізны дом, які нагадвае бачную здалёк чырвоную крэпасць. На ўездзе адметная бел-чырвона-белая шыльда з помнай датай, калі ў Матусевіча праявілася фермерская жылка, — «Маёнтак Матусевічы. 1988».

## Зямлі! Волі!

Фермер Уладзімір Матусевіч мае актыўную грамадзянскую пазіцыю. Ён шмат гадоў дапамагае азеляняць урочышча Курапаты, яго кветкі і цяпер растуць каля лавы Клінтана. Падчас гэтай выбарчай прэзідэнцкай кампаніі спрабаваў стаць сябрам выбарчай камісіі, але не прапусцілі. Як кажа фермер, «адбрыкнулі». Хоць сярод сабраных 10 подпісаў грамадзян у навакольлі былі мясцовы святар (Матусевіч дапамог збудаваць у Мацках капліцу) і сельсавецкі начальнік.

Пагутарылі, вядома, са спадаром Уладзімірам і пра 9 жніўня. Дата галасавання і каронавірус трымае яго дома ў маёнтку і не дае выправіцца ў традыцыйнае летняе падарожжа. Зразумела, што Уладзімір Матусевіч — чалавек не бедны, але падарожнічае ён на ровары, прычым, на дастаткова вялікія адлегласці. Сёлетні план — старт з Гомеля да гогалеўскіх мясцін ва Украіне, а адтуль — у Расію. Пазалетась на сваё 65-годдзе фермер за тыдзень аб'ехаў роварам Фінляндыю — і нават сімвалічна ўзняў прыхоплены з сабою бел-чырвона-белы сцяг за паўночным палярным кругам.




Што да земляробства і вырошчвання гародніны, то, па словах фермера, на працы гаспадаркі каронавірусная інфекцыя аніяк не адбілася. Попыт на прадукцыю нікуды не падзеўся. А ўвогуле, галоўнае — не вырасціць, а прадаць, заўважае Уладзімір Матусевіч. Сваю гародніну ён прадае гуртам: «Мы можам і на сотні гандлёвых кропак прадаваць самі, але ж не разарвешся паўсюль. Дый гэта каштоўны час губляць».

Раней Уладзімір Матусевіч казаў, што 40 гектараў яму хапае і пашырацца намераў няма. Маўляў, ён хоча застацца фермерам, працаваць на зямлі ўласнаручна, босым па палетках прайсціся, а не як менеджар з белым каўнерыкам кіраваць. Але вось сын амбіцыі пашырацца мае, і яны сёлета, як распавёў Матусевіч, напісалі заяву на атрыманне новых гектараў. Тым болей, блізкае «калгаснае» поле занепадае: «Мой ураджай і там не параўнаць, прычым адной і той жа культуры!» Аднак пакуль адказу няма. Зрэшты, атрыманне зямлі — частая скарга фермераў, хаця ўлады дэкларуюць спрыяльны рэжым прыватнай сельскагаспадарчай ініцыятыве на зямлі. Але агулам на ўмовы для вядзенне фермерскага бізнесу спадар Уладзімір не скардзіцца — зарабляць можна. Панаракаў ён толькі на сваю пенсію: хоць фермер — ветэран працы, а мае 330 рублёў.

Дарэчы, свой плён-місію фермер бачыць і ў тым, каб даваць працу іншым людзям з мясцовых жыхароў, у тым ліку пенсіянерам. А пакіне ён не толькі добрую памяць пра сябе, але і прыгажосць: у родных Мацках пасадзіў больш за тысячу дрэваў. Дый дом будаваў сапраўды на манер шляхецкага маёнтка з паркам. Сялянска-фермерская гаспадарка таму адпаведна афіцыйна і называецца.

## За 300 кіламетраў

Цікава, што да арганічнага земляробства ў Беларусі Уладзімір Матусевіч ставіцца скептычна. На яго думку, гэта перспектыва для багатых краін. Бо прадукцыя атрымліваецца дарагая праз невысокую ўраджайнасць. Дый навідавоку вялікія рызыкі: не пратравіш паразітаў, атрымаеш тую самую капусту непрывабнага выгляду — перакупшчык скрывіцца і не стане браць. Сумняваецца Уладзімір Матусевіч і ў тым, што будзе, так бы мовіць, экалагічна чыстым гной: кароваў жа кормяць усялякай «хіміяй».

Між тым, варыянты экалагічных угнаенняў ёсць — напрыклад, паляпшаць урадлівасць глебы можна грэчкай. Так робіць новаспечаны гродзенскі фермер Яўген Дарагуш. У фермеры ён падаўся з праграмістаў. У эпоху інтэрнэту агранамічныя веды дасяжныя любому ахвочаму беларусу. Маюцца і разнастайныя праграмы для падтрымкі новых бізнесаў. Фермер-праграміст нядаўна стаў удзельнікам праекту «Зялёная сельская гаспадарка без межаў», што фінансуецца Еўрапейскім саюзам у межах праграмы трансмежнага супрацоўніцтва Латвіі, Літвы і Беларусі.

Як бачым, сялянска-фермерскія гаспадаркі арганізоўуць людзі самых розных прафесіяў. Нядаўна аўтар гэтых радкоў пазнаёміўся з фермерам з Давыд-Гарадку, што ў Брэсцкай вобласці. Працаваць на зямлі ён стаў пасля шматгадовай службы ў міліцыі, у тым ліку ў складзе элітных спецпадраздзяленняў у Мінску. Але расчараваўся і вырашыў паспрабаваць сябе як гаспадар на зямлі.

Шмат гадоў прыязджае ён са сваёй гароднінай і зяленінай у Мінск. А гэта амаль 300 кіламетраў. І такіх фермераў нямала. А інакш сваю прадукцыю напрасту не рэалізуеш. То прадаваў вырашчанае гуртам перакупам, якія потым выдавалі яго прадукцыю за сваю, накручваючы кошты і распавядаючы пакупнікам пра нібыта цяжкую фермерскую працу, то гандляваў сам. Як цяпер. У прыватнасці, гэтым летам на пляцоўцы каля ПК Трактарнага завода ў сталіцы. Дарэчы, мясцовыя ўлады з 2017 года абяцалі ўладкаваць там міні-рынак замест стыхійнага гандлю. Але нядаўна было паведамлена, што такі праект не мае сэнсу, бо праз дзясятак гадоў тут будзе разваротнае кола метрапалітэну.

Праца фермера ў гандлёвы дзень, па словах фермера з Давыд-Гарадку, пачынаецца зусім не а 5-й ці 6-й раніцы, а за дзень: каб сабраць і расфасаваць прадукцыю, трэба час. У выніку спаць нармальна даводзіцца паўтыдня. Такая зацятая праца ў фермераў цягнецца, лічы, увесь год. Бо ў снежні яшчэ можа збірацца ўраджай — напрыклад, марозаўстойлівага шпінату. А ў лютым ужо трэба займацца рассадай. То-бок, час на адпачынак — толькі студзень.

Зрэшты, усё кампенсуецца, апрача прыбытку, асалодай — вырасціць годна тое, што многім не ўдаецца.

# Бульбаеды і бульбаводы.

Павел КІРЫЛАЎ



**Як, на вашу думку, гастранамічныя мянушкі нацыяў — гэта дрэнная справа ці дапушчальная абывацельшчына? На «бульбашоў» беларусы рэагуюць па-рознаму: хтосьці крыўдуе, хтосьці цешыцца такой адметнасцю. Ну а тое, што мы — знаныя бульбаеды і бульбаводы — па-ранейшаму факт, пацверджаны эканамічнай статыстыкай. Беларусь застаецца лідарам па ўжыванні бульбы і вырашчанай яе колькасці на душу насельніцтва. І гэта пры тым, што за апошнія паўстагоддзя нацыянальны ўраджай бульбы скараціўся ажно ўдвая.**

Каля 170 кілаграмаў бульбы з'ядае ў сярэднім жыхар нашай краіны апошнімі гадамі. Спажыванне скарачаецца: у 2010 годзе гэты паказчык складаў 183 кілаграмы. На некалькі дзясяткаў кілаграмаў адстаюць па спажыванні бульбы ад нас украінцы. У першай дзясятцы — жыхары Польшчы, Расіі, Латвіі, Літвы, Чарнагорыі, Вялікабрытаніі, а таксама, як не дзіўна, Кыргызстану з афрыканскімі Руандай ды Малаві. Цікава, што да 1980-х гадоў сусветнымі лідарамі па спажыванні бульбы былі нашы суседзі-палякі, якія з'ядалі яе штогод больш за 200 кілаграмаў на чалавека.

А вырошчваецца ў нас бульбы апошнім часам кожны год ад 600 да 700 кілаграмаў на душу насельніцтва. Далей зноў ідуць браты-украінцы — 500 кілаграмаў. У першай пяцёрцы бульбаводаў — Нідэрланды, Бельгія і Данія. Нашы іншыя суседзі —палякі, латышы ды расіяне — у першай дзясятцы. Ну, а па агульным аб'ёме вытворчасці бульбы Беларусь у 2010-х гадах выпала з дзясяткі сусветных лідараў, якую ўзначальваюць Кітай, Індыя ды Расія. Бо цяпер мы вырошчваем каля 6 мільёнаў тон бульбы кожны год — плюс-мінус некалькі соцень тонаў. А між тым, яшчэ 20 гадоў таму гэты ўраджай вагаўся ў калідоры паміж 8 і 9 мільёнамі тонаў. А ў пачатку 1970-х гадоў — блізу 13 мільёнаў тонаў. То-бок, удвая болей, чым цяпер. Што адбылося?

### Незалежнасць і бульба

Тлумачэнне, паводле Навукова-практычнага цэнтру Акадэміі навук па бульбаводстве і гароднінаводстве, простае: раней Беларусь у складзе імперыяў мела адной са спецыялізацыяў менавіта вырошчванне бульбы. У Расійскай імперыі нашы продкі забяспечвалі чвэрць ад валавога збору бульбы, а ў СССР — траціну.

Былы старшыня калгасу, кандыдат эканамічных навук, былы выкладчык Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта харчавання Пётр Мігурскі ў інтэрв'ю «Новаму Часу» ўдакладніў, што «Беларусь карміла Маскву, Піцер і Балтыйскі флот, які лічыўся падшэфным нашай краіны. Збыт, прымяненне той самай бульбе знаходзілі і ўнутры Беларусі, і за яе межамі. Яна ішла на корм скаціне, на харчаванне насельніцтва і вытворчасць крухмалу».

З распадам СССР пастаўкі, адпаведна, скараціліся. У 10 разоў зменшыліся і палеткі сельскагаспадарчых арганізацыяў Беларусі, што адводзяцца пад бульбу. Апроч таго, многія постсавецкія рэспублікі пачалі развіваць уласнае бульбаводства. Некаторыя павялічылі пасадкі і, адпаведна, аб'ём ураджаяў у разы. Нездарма мы ўжо згадалі пра кыргызаў, якія сталі аднымі з сусветных лідараў па бульбаедстве.

Вырошчванне бульбы ды іншых відаў гародніны — тая галіна сельскай гаспадаркі Беларусі дый эканомікі агулам, у якой лідарства — яўна за прыватнікамі. Гаворка і пра фермераў, і пра прысядзібныя гаспадаркі. Калі ў Савецкім Саюзе аб'ём вырашчанай бульбы падзяляўся прыкладна напалам паміж сельгасарганізацыямі (тады калгасамі ды саўгасамі) з аднаго боку і насельніцтвам з другога, то цяпер да 90% гэтага стратэгічнага для нас прадукту выпрацоўваецца менавіта прыватнымі гаспадарамі. Статыстыка ў пацвярджэнне: у 2019 годзе мы сабралі 6,1 мільёна тонаў бульбы, з іх толькі 652 тоны (!) прыпадае на сельскагаспадарчыя арганізацыі. Дзякуючы прыватніку і ўдаецца выконваць паказчыкі па бульбе, намечаныя Дзяржаўнай праграмай развіцця аграрнага бізнесу: да канца 2020 года вытворчасць бульбы павінна быць у аб'ёме 5,6 мільёна тонаў.

**У 2019 годзе мы сабралі 6,1 мільёна тонаў бульбы, з іх толькі 652 тоны (!) прыпадае на сельскагаспадарчыя арганізацыі. Дзякуючы прыватніку і ўдаецца выконваць паказчыкі па бульбе, намечаныя Дзяржаўнай праграмай развіцця аграрнага бізнесу**

Валавы ўраджай падае, затое ўраджайнасць расце. У мінулым годзе яна склала 229 цэнтнераў з гектара. Для параўнання, у 2005 годзе было 177, а ў 1995-м — 132 цэнтнеры з гектара. Дарэчы, рост ураджайнасці ў нашай сельскай гаспадарцы назіраецца наогул па ўсёй гародніне — са 135 ц/га ў 1995 годзе да 284 ц/га летась.

«Новы Час» вывучыў апошнія лічбы ўраджайнасці па бульбе па ўсіх рэгіёнах Беларусі і склаў Топ-10 самых багатых на бульбу раёнаў паводле статыстыкі па розных абласцях за 2018 год. На Брэстчыне ў тройцы лідараў Ляхавіцкі раён — 362 ц/га, Іванаўскі — 328 і Брэсцкі — 293. У аўтсайдарах — Драгічынскі і Ганцавіцкі раёны. Віцебшчына: тут рэкардсмены Талачынскі раён — 354 ц/га, Полацкі — 288 і Пастаўскі — 253, адстае Дубровенскі. На Гомельшчыне лідзіруюць Ельскі раён — 270 ц/га, Веткаўскі — 249 ды Мазырскі — 239. Унізе спісу — Хойніцкі раён. На Гродзеншчыне самую вялікую ўраджайнасць даюць бульбаводы Гродзенскага раёна — 399 ц/га, Ашмянскага — 381 і Смаргонскага — 361. Аўтсайдарам з'яўляецца Слонімскі раён. На Міншчыне самыя перадавыя — Нясвіжскі раён з 443 ц/га, Дзяржынскі — з 380 і Бярэзінскі — з 350. Так сабе з ураджайнасцю бульбы ў Крупскім раёне. На Магілёўшчыне па бульбе наперадзе Клічаўскі раён — 331 ц/га, Кіраўскі — 301 ды Асіповіцкі — 299. Апошнім ідзе Чавускі раён.

**Топ-10 раёнаў Беларусі па ўраджайнасці бульбы (ц/г):**

1. Нясвіжскі — 443
2. Гродзенскі — 399
3. Ашмянскі — 381
4. Дзяржынскі — 380
5. Ляхавіцкі — 362
6. Смаргонскі — 361
7. Талачынскі — 354
8. Бярэзінскі — 350
9. Клічаўскі — 331
10. Іванаўскі — 328

### Разварыстасць не ў пашане

Толькі адзін раён у Беларусі, — Нясвіжскі, — мае ўраджайнасць, як у сусветных лідараў. Калі ў нас яна ледзьве сягае за 200 ц/га, то цэлы дзясятак краінаў мае сярэднюю ўраджайнасць ад 400 ц/га да 500 ц/га. Гэта — Новая Зеландыя, Бельгія, ЗША, Германія, Нідэрланды, Ірландыя, Данія, Англія, Францыя, Швейцарыя. Мы балансуем дзесьці ў пятым дзясятку, у два разы саступаючы лідарам. Адчуйце розніцу! А робіць гэтую саму розніцу больш дарагія і прасунутыя агратэхналогіі і насенневы матэрыял.

Тых самых хваробаў і шкоднікаў — ад каларадскіх жукоў да фітафтарозу — у бульбы процьма. Не кажучы пра засмечанасць градак банальным пустазеллем. Дарэчы, яе ўзровень у Беларусі сягае 90–120 пустазеллевых раслінаў на квадратны метр! А бульба, аказваецца, вельмі да іх уразлівая. І пры толькі пяці (!) смецевых раслінах на квадратны метр пасадак ураджайнасць бульбы зніжаецца на 2,5%, пры 25 пустазельніках — на 10%, пры 50 — на 20%, пры 100 — на 30%. Карацей, без розных інсектыцыдаў, гербіцыдаў і пестыцыдаў не абысціся.

Дарэчы, простая парада па барацьбе з фітафтарозам і, галоўнае, безвыдаткавая — садзіце клубні бульбы як мага глыбей. Клубні на глыбіні болей за 10 сантыметраў паражаюцца гэтай хваробай у 5–10 разоў радзей, чым на глыбіні 3–5 сантыметраў.

Што тычыцца насенневых клубняў, то, канешне, нашы селекцыянеры ўвесь час працуюць над вывядзеннем аптымальных гатункаў. Стварыць адзін беларускі гатунак і прасунуць на рынку бульбаводства займае працяглы час (некалькі гадоў) і каштуе ад паўмільёна еўра. Дарэчы, калі ў пачатку 1990-х гадоў у нас налічвалася каля двух дзясяткаў гатункаў бульбы, то цяпер вырошчваюцца амаль паўтары сотні. Беларускай селекцыі з іх — каля 40.

Што праўда, апошнімі гадамі многія фермеры пачалі адмаўляцца ад беларускіх гатункаў. Некаторыя цалкам, многія скарачаюць плошчы, на якіх засяваюцца нашы «Скарб» ці «Уладар». Пра гэта фермеры не надта жадаюць гаварыць, бо нібыта тое непатрыятычна, але перад вучонымі-бульбаводамі трывогу б'юць даўно. Але прычына не ў саміх гатунках — да іх прэтэнзіяў няма. І ўрадлівыя, і да хваробаў устойлівыя. Праблема — менавіта ў якасці насення, якое закупляюць фермерскія гаспадаркі. Адмовіцца ад беларускіх гатункаў яны вырашаюць, калі ўраджай

# Нас не даганяць?

мізарнее праз набытыя насенневыя клубні, якія ўжо так ці інакш аказваюцца пашкоджанымі. То-бок, гэта пытанне да арганізацый, якія займаюцца вырошчваннем насення бульбы.

Цікава, што на працу селекцыянераў уплываюць не толькі запатрабаванні вытворцаў, але і мы з вамі — спажыўцы. Рэч у тым, што густы беларусаў пачалі мяняцца. Калі раней пераважная большасць жыхароў нашай краіны любіла разварыстую бульбу белага змесціва, то цяпер у фаворы тыя гатункі, якія маюць жоўтую мякаць і дрэнна развараюцца, а то і не развараюцца ўвогуле. Вось і даводзіцца селекцыянерам дагаджаць нашым зменлівым густам. Маркетынг — важная справа і ў бульбаводстве.

Ну і наогул стаўка робіцца на разнастайнасць — ужо выведзеныя каляровыя клубні і гатункі, прыдатныя для фры. Напрыклад, файная саломка атрымаецца з бульбы гатунку «Лель». Можа, калі-небудзь яго пачне выкарыстоўваць і сетка «Макдональдс».

## Фермеры даганяюць «калгасы»

Наогул, гатункі бываюць сталовыя, якія падзяляюцца на раннія, для доўгага зберагання і для перапрацоўкі на бульбапрадукты, а таксама тэхнічныя, з якіх вырабляюць крухмал. Сталовыя гатункі падзяляюцца на чатыры кулінарныя тыпы. A і B — тыя, якія сярод іншых прыкмет не развараюцца і слаба развараюцца, а C і D — развараюцца моцна або вельмі моцна.

Якія ж самыя папулярныя гатункі бульбы ў Беларусі? Безумоўныя лідары — «Брыз» і «Скарб». Таксама варта адзначыць «Вектар», «Янка», «Волат» і «Уладар». Коратка пра некаторыя з іх. Ранні гатунак «Уладар» можа мець ураджайнасць да 700 цэнтнераў з гектара, адносіцца да кулінарнага тыпу B, адносна высокаўстойлівы да фітафтарозу клубняў, вочкі дробныя. Падобныя характарыстыкі і ў сярэдняраннягa «Брызу», але ён даўжэй захоўваецца. Сярэдняспелы гатунак «Скарб» многія называюць легендарным, у Дзяржрэестры ён з 1997 года — то-бок, правераны часам, мае адзін з самых доўгіх спісаў хваробаў, да якіх ён устойлівы. Дастаткова добра перажывае засуху. Адзнака захавальнасці — на «выдатна». Зрэшты, некаторыя фермеры, з якімі пагутарыў аўтар гэтых радкоў, наракалі, што «Скарб» ужо састарэў.

Адметна, што ў характарыстыках беларускіх гатункаў ураджайнасць пазначаецца на ўзроўні да 600–700 цэнтнераў з гектара, але ў рэчаіснасці ў сярэднім па краіне атрымліваецца дасягнуць удвая-ўтрая меншай. У тым ліку таму асноўная надзея на фермера як на бізнесоўца, які будзе намагацца мінімізаваць страты і павышаць агратэхнічныя захады дзеля росту прыбыткаў, кажа эканаміст Пётр Мігурскі. Адпаведна, вырасце і валавы збор бульбы ў Беларусі.

Летась фермерамі было сабрана 450 тонаў бульбы — 7,5% ад



усёй сабранай бульбы ў краіне. Яшчэ трошкі — і фермерскія гаспадаркі зраўняюцца па аб'ёмах вытворчасці з сельгасарганізацыямі. Ну, а лідарства хіба што назаўжды ці, прынамсі, яшчэ вельмі доўга застанецца за індывідуальнымі прысядзібнымі гаспадаркамі ў вёсках і на лецішчах. Хаця маладыя пакаленні не надта ахвочыя садзіць бульбу — і гэта яшчэ адзін аргумент за тое, што стаўку ў развіцці бульбаводства варта рабіць на фермераў. Увогуле ж у 2019 годзе яны вырасцілі пятую частку ад усяго нацыянальнага аб'ёму гароднiны. 10 гадоў таму іх доля была больш як утрая меншай. І гэта пры тым, што на фермерскія гаспадаркі прыпадае толькі 2,5% ад агульнай плошчы сельскагаспадарчых земляў у Беларусі.

І нарэшце: ураджайнасць бульбы ў фермерскіх гаспадарках значна перавышае сярэднюю па Беларусі — 308 ц/га летась супраць 229 ц/га. Цікава, што ў лідарах фермеры Магілёўшчыны — 432 ц/га. Выснова тут відавочная: дайце фермерам зямлю і эканамічную вольніцу са спрыяльным заканадаўствам.

## Чаму замежная гародніна бывае таннейшай?

Пётр Мігурскі рэкорднай ураджайнасці ў фермераў сваёй роднай Магілёўскай вобласці не здзіўлены. Па яго словах, тут сапраўды ў шэрагу фермерскіх гаспадарак еўрапейскі ўзровень арганізацыі працы, як вынік — яны маюць высокія паказчыкі ўраджайнасці: «Вось ёсць у нас фермерская гаспадарка "Дзіяна". Тут збіраюць 50 тысяч тонаў бульбы на год. Калісьці мой калгас на Гомельшчыне, у якім я быў старшынёй, сабраў 12 тысяч тонаў. І я тады думаў, што такі вынік не перабіць. А вось фермерская гаспадарка мае ўраджай амаль у пяць разоў большы!»

«Дзіяна» — адзін з самых буйных вытворцаў бульбы ў Беларусі. Заснавальнік і кіраўнік гаспадаркі непадалёк ад Шклова Уладзімір Маліноўскі, старшыня калгаса за савецкім часам, займаецца прамысловым вырошчваннем бульбы з 1991 года. Заробак тут — лёгка «па пяцьсот» (так, у доларавым эквіваленце). Пра тэхналагічнасць працэсу сведчыць тое, што бульба ў таварным выглядзе можа зберагацца ў сховішчах з адмысловым клімат-кантролем, не прарастаючы, амаль цэлы год. А перабірае бульбу спецыяльны канвеер. Трактары па палях тут ездзяць самі — па камп'ютарных праграмах. За мяжу «Дзіяна» прадае бульбы на некалькі мільёнаў долараў — у асноўным ва Украіну ды Расію. Пры гэтым вырошчваюць у гэтай фермерскай гаспадарцы пакуль што

**Ураджайнасць бульбы ў фермерскіх гаспадарках значна перавышае сярэднюю па Беларусі — 308 ц/га летась супраць 229 ц/га. Выснова відавочная: дайце фермерам зямлю і эканамічную вольніцу са спрыяльным заканадаўствам!**

пераважна беларускія гатункі бульбы (дамінуе якраз згаданы намі вышэй «Брыз»), але паступова пераходзяць на замежныя — у прыватнасці, нямецкія.

Вырошчванне бульбы і гароднiны — самы папулярны кірунак у беларускіх фермераў (54% ад усяго аб'ёму вырашчанай імі сельгаспрадукцыі). Наступныя па долях — зерне (12%) і садавіна з ягадамі (9%). Але якія від гароднiны самы перспектыўны? З чаго варта пачынаць фермеру, калі не маеш вопыту, асцерагаешся рызыкаў і не хочаш надта трацiцца? Пётр Мігурскі кажа, што не рызыкнуў бы даваць парадаў: «Год на год не прыходзіцца, кан'юнктура ўвесь час мяняецца. Параіш каму-небудзь садзіць памідоры — а тут здарыцца няўдалы дажджлівы год, з нізкімі тэмпературамі, дый фітафтора... Часам увосень набірае ў коштах капуста. Бывае, даражэе раптам бульба». Дарэчы, якраз ураджайная кан'юнктура можа спрычыняцца да таго, што прывазная бульба становіцца больш таннай за беларускую. Умоўна, калі ў Польшчы ўраджай, а ў нас не, то зразумела, дзе будзе вышэй сабекошт вытворчасці — і, адпаведна, цана.

Аднак нярэдка дарагоўля беларускай гароднiны ў параўнанні з імпартаванай вызначаецца не толькі ўраджаямі. Істотны фактар — той самы сабекошт, кажа Мігурскі. Сістэма гаспадарання з апірышчам на дзяржаўную ўласнасць робіць прадукцыю даражэйшай мінімум на 25%. Бо такая сістэма непаваротлівая. «Фермер можа лавіраваць коштамі і аператыўна, пры патрэбе, калі нешта ідзе не па яго плане па атрыманні прыбытку, выйсці з праблемнай сітуацыі за кошт гнуткага абарачэння сродкаў», — зазначае эканаміст. То-бок, ён можа і гатовы сёння прадаць змушана па меншай цане, каб грошы былі ў яго на руках і пайшлі далей у абарачэнне. А кіраўнікі дзяржпрадпрыемстваў, калі захочуць падладзіцца пад цэнавую кан'юнктуру рынку, панясуць крымінальную адказнасць. Ну і, натуральна, на сабекошт уплывае тое, што ўмовы вырошчвання, напрыклад, іспанскіх таматаў нельга параўноўваць з кліматычнымі ўмовамі, якія маюцца ў Беларусі. Нарэшце, памідораў у той самай Іспаніі вырабляецца вельмі шмат, і тамтэйшыя вытворцы сноўдаюць па ўсім свеце, шукаючы рынкі збыту і замацоўваюцца на іх у тым ліку праз прапановы нізкіх коштаў.

«Але што заўжды выгадна? — кажа эксперт «Новага Часу». — Гэта вытворчасць бульбы! І ў Беларусі збыт можна знайсці, калі круціцца, і ў Расіі наша бульба вельмі запатрабаваная. І так будзе яшчэ нейкі час, пакуль расіяне яшчэ толькі набіраюць бульбавую моц. Ну і нарэшце — агуркі! Усім вядомы прыклад агуркавікоў у Брэсцкай вобласці. Гуркі адтуль бесперапынна фурамі едуць на Расію».

Сам эканаміст вырошчвае на прысядзібным участку багата ўсяго — бульбу, перац, буракі, моркву, гуркі, памідоры, фасолю, кукурузу і сланечнік. Цяпер для ўласных патрэбаў, але было, што ў час беспрацоўя прадаваў на рынку бульбу і капусту. Разважае пра свойскую гаспадарку кандыдат эканамічных навук так: «Асаблівага эканамічнага сэнсу ў маім прысядзібным участку няма. Але гэта занятасць і задаволенасць працай. Вока радуе!»





Фота www.health-kz.com

> Навукова-практычны цэнтр Акадэміі навук па харчаванні рэкамендуе есці гародніну некалькі разоў на дзень. І каб атрымлівалася не меней за 400 грамаў на суткі. Прычым, у свежым выглядзе. Пажадана, каб гародніна была мясцовага паходжання

# Цана экаежы

Міраслаў ГАЖЭЦКІ

**Беларусы ядуць штогод у сярэднім 150 кілаграмаў гародніны на чалавека. Гэты паказчык не змяняецца ўжо шмат гадоў. Хаця дыетолагі настойліва раяць ужываць болей гародніны ды зеляніны ў якасці складовай часткі здаровага ладу жыцця. Паводле прагнозаў, прапаганда здаровага харчавання бліжэйшым часам адабʼецца ўсё ж такі і на статыстыцы.**

Узбагачаць і аздараўляць рацыён трэба пачынаць з дзіцячых меню ў садках і школах. Так можна кампенсаваць недахоп гародніны ў дзяцей, якія дома ядуць зазвычай — умоўна, — макарону з варанай каўбасой. Наогул, пра ўжыванне беларусамі гародніны можна меркаваць па апытанні, што было праведзенае сярод бацькоў школьнікаў Навукова-практычным цэнтрам Акадэміі навук па харчаванні. Чакана выявілася, што самыя папулярныя віды гародніны ў нас — агуркі, памідоры і цыбуля (іх ядуць да двух разоў на суткі). 2–3 разы на тыдзень на стале беларускіх сем'яў з'яўляюцца капуста, бульба і морква. 3–4 разы на месяц спажываюцца кабачок, гарбуз, патысон, а таксама буракі ў баршчы ці вінегрэце. Салёную і марынаваную гародніну ў сем'ях з дзецьмі школьнага ўзросту ядуць 1–2 разы на месяц.

### Гародніна без «хіміі»

Увогуле ж Навукова-практычны цэнтр Акадэміі навук па харчаванні рэкамендуе есці гародніну некалькі разоў на дзень. І каб атрымлівалася не меней за 400 грамаў на суткі. Прычым, у свежым выглядзе. Пажадана, каб гародніна была мясцовага паходжання. Натуральна, што нашы вытворцы ўхваляюць такія парады.

Калі не маеш градаў на вёсцы і лецішчы, то выбар усё адно багаты: ад крамаў да рынкаў. Дастаткова шмат з'явілася апошнімі гадамі прапаноў ад фермераў. Вельмі часта яны аб'ядноўваюцца і арганізуюць сэрвісы дастаўкі або міні-рынкі. Самы свежы прыклад — якраз днямі побач з самым вялікім гіпермаркетам «Еўраопт» у Мінску на вуліцы Мантажнікаў, што каля ТЭЦ-4, запрацаваў «Фермерскі кірмаш».

Асабліва пачала цаніцца гародніна, якая можа лічыцца арганічнай прадукцыяй, — гэта сусветны трэнд. Канешне, арганічнае земляробства больш распаўсюджана ў заможных краінах, але і ў Еўрасаюзе пакуль што пад яго задзейнічана ўсяго толькі 7% сельскагаспадарчых зямель. У лідарах — Аўстрыя з 23%, Эстонія з 20% ды Швецыя з 19%. Сярод самых прасунутых краін — і наша суседка Латвія, дзе на 14% сельгасугоддзяў вырошчваюць арганічную аграпрадукцыю. У нас жа гэта пакуль тры дзясяткі гаспадарак, якія вырошчваюць гародніну без выкарыстання «хіміі».

> **Як вырошчваецца экаежа без «хіміі»? Альтэрнатывай пестыцыдам, прызначаным для барацьбы са шкоднымі арганізмамі ў сельскай гаспадарцы, могуць быць агратэхнічныя захады**

Але ўвага: прыстаўка «эка-» на ўпакоўцы з бульбай і таматамі не азначае, што гэта арганік-прадукт. Адрозніваць сапраўды экалагічна чыстую ежу ад рэкламна-падманнай можна згодна з законам «Аб вытворчасці і абарачэнні арганічнай прадукцыі», які запрацаваў восенню 2019 года, па адмысловым знаку-сертыфікаце «Арганічны прадукт». У некаторых нашых вытворцаў ёсць замежныя «зялёныя» сертыфікаты. Атрымаць іх удаецца толькі пасля выканання шэрагу земляробчых стандартаў і праверкі адмысловай інспекцыяй. Агулам працэс расцягваецца на перыяд 3–5 гадоў.

Сертыфікацыя вельмі строгая. Ну, і пасля яе адбываюцца планавыя і пазапланавыя інспекцыі. Знойдуць, што фермер выкарыстоўваў мінеральныя ўгнаенні — бывай, сертыфікат! Не допускаецца нават дробнай канцэнтрацыі хімічных сродкаў абароны раслін. Таму агранамічныя веды пра тое, як альтэрнатыўнымі традыцыйнаму інтэнсіўнаму земляробству метадамі атрымліваць добры ўраджай, вельмі важныя.

### Ідэйныя фермеры

Напрыклад, фермер Дзмітрый Лутаеў з вёскі Сошніца Бярозаўскага раёна на Брэстчыне, адзін з арганізатараў і ўдзельнікаў суполкі «Кансорцыя арганічных гаспадарак», вучыўся ў сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках, а затым у шведскім універсітэце прайшоў адмысловы курс арганічнага земляробства. Пачынаў сваю справу абсалютна з нуля — набыў стары дом з занядбаным гектарам зямлі. Гэта быў плюс — зямля была чыстая ад рознай неарганікі. Цяпер ён вырошчвае каля 30 агракультур — ад таматаў да кавуноў. Кажа, што з гектара на арганічнай гародніне можна зарабіць да 15–20 тысяч долараў на год. Натуральна, выкарыстоўваючы шкодна-брудныя мінеральныя ўгнаенні, можна зарабіць болей і прасцей. Але Лутаеў — ідэйны фермер, які дбае пра прыроду і зямлю. І пра людзей, многія з якіх пакутуюць на алергію праз пестыцыды.

Як ставяцца да арганічнай прадукцыі патэнцыйныя пакупнікі? Перадусім і вытворцам, і медыкам яшчэ тлумачыць ды тлумачыць людзям, што такое наогул арганічная прадукцыя. Паводле сацыялагічнага апытання, зладжанага на замову Цэнтру экалагічных рашэнняў у 2018 годзе, 80,5% рэспандэнтаў чулі такое словаспалучэнне, але з іх толькі 54% маюць уяўленне пра тое, што гэта такое. 78% жыхароў буйных беларускіх гарадоў гатовы купляць гародніну і бульбу, калі яны будуць каштаваць на 10% даражэй за звычайную прадукцыю. А вось калі на траціну даражэй, то ўжо толькі 34%, калі ж на 50% — то яшчэ ўдвая меней, усяго 16%.

Дык як вырошчваецца экаежа без «хіміі»? Альтэрнатывай тым самым пестыцыдам, прызначаным для барацьбы са шкоднымі арганізмамі ў сельскай гаспадарцы, могуць быць агратэхнічныя захады і біялагічна актыўныя рэчывы. Напрыклад, агратэхнічныя метады — гэта выкарыстанне ўстойлівых да рознай заразы гатункаў, правільны севазварот, які не дае назапашвацца шкодным арганізмам у крытычную масу, своечасовая апрацоўка глебы. Калі правільна апрацаваць глебу, то розныя лічынкі шкоднікаў гінуць на яе паверхні ад змены тэмператур, а таксама становяцца здабычай птушак і насякомых.



Ёсць і «зялёныя ўгнаенні» — розныя расліны. На карысць ідзе суседства некаторых раслін: часнык, цыбуля, фасоля, базілік абараняюць ад шкоднікаў і ўзбуджальнікаў раслінных хваробаў. Напрыклад, бульба «сябруе» з бабамі, капустай, шпінатам, хрэнам, мятай. І, наадварот, не сябруе з таматамі, гарбузамі, вішняй, рабінай, гуркамі. Гуркі, у сваю чаргу, добра суседнічаюць з гарохам, кропам, цыбуляй, капустай. Падалей гуркі трэба трымаць ад вінаграду.

### Двубой на морквах

Між тым, у Навукова-практычным цэнтры па харчаванні даводзяць, што нават неарганічная беларуская гародніна больш бяспечная за прывазную. Што ўжо казаць пра арганічную! Так, у нашай бульбе ў паўтара раза менш нітратаў. І на столькі ж болей караціну ў нашай моркве ў параўнанні з імпартаванай. У чым сакрэт? Папросту наша гародніна выспявае перад продажам у натуральных умовах, а прывазная — ва ўпакоўках. Да ўсяго прывазная для падаўжэння тэрмінаў захоўвання адмысловым чынам апрацоўваецца. Не надта крытычна для жыцця і здароўя, але тым не менш — навошта накапляць у арганізме нешта «бруднае»?

Зразумела, што шмат у якіх выпадках вырашае памер сямейнага бюджэту. Мы параўналі прапановы другой паловы ліпеня на гародніну і зеляніну ў фермераў-арганікаў, на Камароўскім рынку ў Мінску, і ў крамах папулярнай гандлёвай сеткі. Паслуга дастаўкі ёсць паўсюль, прайс гэтых сэрвісаў мы і вывучым. Адно, што фермеры не прывязуць вам сваёй ежы ў любы дзень. Дастаўка ажыццяўляецца па пэўных днях на замову. Ну, і калі б быў вялікі попыт, то маштабы арганічнага фермерства не дазволілі б задавальваць яго ў штодзённым рэжыме.

Арганікі выйграюць тым, што вам гарантуюць продаж экалагічна чыстай ежы, што пацверджана адмысловым аўтарытэтным сертыфікатам. То-бок, гародніна абсалютна без хімікатаў. На рынку і ў краме яны ў гародніне, хутчэй за ўсё, будуць, якая канцэнтрацыя — загадка. Ну а далей ідзе канкурэнцыя коштаў. Такім чынам, арганічная капуста ранняя абыдзецца ў 2 рублі 10 капеек за штуку вагой прыкладна 800 грамаў. Камароўка прапануе капусту вагой 1 кілаграм 200 грамаў за 4.90 руб. — македонскую. У краме кілаграмовы качан каштуе 75 капеек.

Кілаграм гуркоў: рынак — 2.90, арганікі — 3.20, крама — 2.80 руб. Памідоры ружовыя ў экафермераў прадаюцца па 6 рублёў за кілаграм, на Камароўскім рынку — азербайджанскія за 9.90. У крамах такіх прэміум-таматаў не прадаюць. Ну і маладая морква: сэрвіс дастаўкі Камароўскага рынка прапануе яе па 3.90 руб. за паўкіло, фермеры арганічных гаспадарак — па 2.50 за такую самую вагу, у краме кілаграм морквы каштуе 1,7 руб.

Фермеры, якія вырошчваюць арганічную прадукцыю, кажуць, што, канешне, сабекошт у іх вышэйшы, але яны стараюцца цэны не задзіраць. Канкурэнтаў багата, а нарасціць сталую пакупніцкую аўдыторыю гэтак жа няпроста, як і экалагічна чыстую гародніну. Мараць фермеры-экалагісты і пра падтрымку дзяржавы ў будучыні, як гэта ёсць у ЕС. Напрыклад, на падтрымку арганічных гаспадарак мог бы ісці экалагічны падатак з тых сельскагаспадарчых суб'ектаў, якія вядуць інтэнсіўнае земляробства.



Фота www.abi.unicum.de

# Год для Германіі

Алег НОВІКАЎ

**У Берліне задумаліся наконт таго, каб абавязаць маладых людзей (пакуль добраахвотна) праходзіць год працоўнай службы. Паколькі тэма працоўнага абавязку была адной з любімых фішак Гітлера, ініцыятыва лагічна выклікала гарачую дыскусію.**

Ініцыятарам праекту «Dein Jahr für Deutschland» (Твой год для Германіі) было Міністэрства абароны на чале з Анегрэт Крамп-Карэнбаўэр, якая раней ледзь не стала пераемніцай Меркель. Напэўна, гэта ў чымсьці лагічна, паколькі ідэя пра тое, што моладзь павінна аддаць дзяржаве доўг у выглядзе праходжання нейкай службы ад пачатку была звязана з войскам. Немцы, нагадаем, запазычылі прызыўную сістэму ў французаў у часы напалеонаўскіх войнаў.

Праўда, у 2011 годзе ад пастулату доўгу перад радзімай адмовіліся на карысць прафесійнага войска. Як сцвярджалі спецыялісты, прызыўная сістэма аказалася бессэнсоўнай у ваенных адносінах, і нават стала перашкодай для мадэрнізацыі Бундэсвера.

Што тычыцца працоўнай павіннасці, то гэтая тэма пачала мусіравацца ў часы Веймарскай рэспублікі, якая, згодна з Версальскай дамовай, не мела права на паўнавартасную армію. Адпаведна, тады не дасылалі позваў у ваенкаматы. Правыя партыі, што марылі пра адраджэнне войска, прыдумалі эрзац нармальнай арміі ў выглядзе працоўнага варыянту. Яшчэ да прыходу нацыстаў да ўлады, у 1931 годзе ўрад Брунінга ўвёў добраахвотную працоўную службу. Лічыцца, што на гэты крок міністраў натхніў вопыт Балгарыі, 30 працэнтаў насельніцтва якой былі занятыя ў працоўнай арміі.

З прыходам да ўлады Гітлера добраахвотная служба хутка стала абавязковай. Адпаведнае распараджэнне Гітлер аддаў 1 траўня 1933 года, выступаючы на мітынгу. Як сказаў тады аратар, «выкананне ручной працы дазваляе ўмацаваць згуртаванасць нямецкага народа». Неўзабаве ўнутры дзяржапарату паўстаў дэпартамент «Імперская служба працы». Спачатку туды заганялі толькі юнакоў, але неўзабаве надышла чарга і дзяўчат.

Закон ад 26 чэрвеня 1935 года абвяшчаў працоўную павіннасць абавязковай для ўсіх грамадзян Германіі ва ўзросце ад 19 да 25 гадоў. Два разы на год усе маладыя немцы (агульнай колькасцю да 200 тысяч чалавек) накіроўваліся працаваць у асноўным на сельскагаспадарчыя работы. На працягу шасці месяцаў мужчыны працавалі на фермах і палях, а жанчыны дапамагалі па гаспадарцы. Папярэдняя прафесія значэння не мела.

Функцыянавала апісаная мадэль да 1945 года, пакуль Рэйх не разагналі саюзнікі. Зрэшты,

**Ваенны камісар Бундэстагу Ева Хогла наогул прапанавала аднавіць прызыў на ваенную службу. Прапанова была аргументавана тым, што ў прафесійнай арміі хутчэй распаўсюджваецца правы экстрэмізм**

нейкія падобныя элементы можна знайсці ў працы ведамства «Служба для Германіі», якая дзейнічала ў ГДР з 1952 года. Паводле статуту, яна працаўладкоўвала «добраахвотнікаў» дапамагаць народнай гаспадарцы. Праўда, з-за неэфектыўнасці доўга тая служба не праіснавала.

І вось старая тэма вяртаецца, прычым у тым жа знаёмым лексіконе. Паводле аўтараў «Dein Jahr für Deutschland», працоўная служба неабходна моладзі, каб звязваць сябе з дзяржавай, інтэгравацца ў грамадзянскую супольнасць і гэтак далей.

Не дзіўна, што нямецкая пацыфісцкая грамадскасць адразу ж падняла гучны енк. Калі верыць яе спікерам, гаворка ідзе пра спробы пераасэнсаваць прынятую ў ФРГ антынацысцкую дактрыну гісторыі, рэанімаваць старую ідэю ў новых умовах. «Той факт, што замест старога тэрміна "служба" выкарыстоўваецца азначэнне "сэрвіс", не абяцае нічога добрага. Што добрага ў тым, каб служыць дзяржаве, даючы Германіі адзін год? Калі мэта палягае ў тым, каб быць салідарнымі адзін з адным, дапамагаць адзін аднаму і рабіць нешта для іншых, тады працоўная служба не патрэбная», — піша левая Junge Welt. Самыя жвавыя публіцысты падазраюць, што «Dein Jahr für Deutschland» прыдумалі, каб прагнаць праз яе ўсіх маладых імігрантаў. Агульнае пражыванне ў казармах і праца з аднагодкамі-немцамі, маўляў, дапамогуць узмацніць іх нямецкую ідэнтычнасць.

Апаненты пацыфістаў спрабуюць пераканаць бюргераў, што падставы для праекта значна больш банальныя. Для функцыянавання Бундэсвера патрэбныя не толькі салдаты, але і адмысловы сектар, які адказвае за іх забеспячэнне, інфраструктуру і гэтак далей. Раней гэтую функцыю за кошт бюджэту міністэрства выконвалі нанятыя грамадзянскія асобы і фірмы-падрадчыкі. Цяпер, для эканоміі, вырашылі прыцягнуць танную сілу ў выглядзе маладых людзей, якія будуць праходзіць працоўны абавязак.

Падобна, Германія сапраўды задумалася наконт сваёй абароны. Днямі ваенны камісар Бундэстагу сацыял-дэмакратка Ева Хогла наогул прапанавала аднавіць прызыў на ваенную службу. Прапанова была аргументавана тым, што ў прафесійнай арміі хутчэй распаўсюджваецца правы экстрэмізм. Сапраўды, у апошні час адбыліся некалькі рэзанансных скандалаў пра існаванне ў казармах Бундэнсверу падпольных сетак правых радыкалаў. А чальцы адной з такіх груповак, як паказваюць матэрыялы следства, нават планавалі ваенны пераварот з сінхронным фізічным знішчэннем цяперашняй палітычнай эліты ФРГ.

Аднак вельмі сумніўна, што прызыў на ваенную службу дапаможа вырашыць праблему правага экстрэмізму. А вось спрыяць фарміраванню арміі Еўрасаюза, пра якую шмат гавораць на фоне крызісу адносін са Злучанымі Штатамі, рэформа Евы Хогла сапраўды здольная.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ЗША. Сцеражыся вавёркі!

Як вядома, ЗША ўтрымліваюць сусветнае лідарства па маштабе эпідэміі каронавіруса з прыкладна 70 тысячамі інфікаваных штодня. Аднак сітуацыя можа быць яшчэ горшай з-за навінаў са штату Каларада. Тут мясцовая вавёрка дала станоўчы вынік на бубонную чуму. Тэст на чуму, які быў зроблены жывёле, засведчыў станоўчы вынік 11 ліпеня ў горадзе, што недалёка ад Дэнвера (сталіца штата). Ці варта казаць, што інфармацыя выклікала асцярогі з нагоды магчымай успышкі хваробы, на фоне якой цяперашні вірус — проста дробязь. Бубонная чума забіла ў XIV стагоддзі да 200 мільёнаў чалавек. «Чорная смерць» дагэтуль лічыцца самай страшнай пандэміяй у гісторыі чалавецтва. Акрамя таго, два чалавекі памерлі ў Каларада ад чумы ў 2015 годзе. Чаму менавіта каларадскія вавёркі з'яўляюцца пераносчыкамі небяспечнай хваробы, не паведамляецца. Так ці інакш, Сусветная арганізацыя аховы здароўя класіфікавала бубонную чуму як хваробу з прыкладна 1000–2000 выпадкаў на год.

**Паводле брытанскай прэсы**

### РАСІЯ. Супраць маскоўскага часу

Падчас таго, як бунтуе Хабараўск, у расійскай медыяпрасторы пачалася незвычайная дыскусія. Спрачаюцца, які рэгіён можа ўспыхнуць наступным. Сярод іншых называецца Валгаградская вобласць, жыхары якой, нібыта, могуць выйсці на вуліцы, пратэстуючы супраць пераходу на маскоўскі час. У 2018 годзе па выніках мясцовага рэферэндуму Валгаградская вобласць адышла ад маскоўскага часу і перавяла стрэлкі на гадзіну наперад. Тым самым яна папоўніла шэрагі іншых рэгіёнаў Паволжа, якія «адстаюць» ад Масквы на гадзіну — Самарская, Астраханская і Саратаўская вобласці. Але камусьці гэта не спадабалася, і ў межах ліпеньскага рэферэндуму па папраўках у Канстытуцыю было праведзена новае апытанне, на якім 66,86% галасоў было аддадзена за перавод стрэлак на маскоўскі час. Многія абарыгены лічаць гэтую лічбу прыдуманай па замове маскоўскага бізнесу, які прызвычаіўся, што ўсе рэгіёны мусяць працаваць па сталічным графіку. Так ці інакш, ужо створаная ініцыятыўная група, якае будзе змагацца за мясцовы час. У актыў групе можна занесці шырокую інфармацыйную кампанію, па выніках якой першыя і нясмелыя спробы загаварыць пра праблему пераходу на мясцовы час адбыліся ў Пензе і Ніжнім Ноўгарадзе.

**Паводле расійскай прэсы**

### УКРАІНА. Дэкларацыя аб суверэнітэце як гістарычная памылка

Украіна з вялікай помпай адсвяткавала 30-ю гадавіну прыняцця Дэкларацыі аб суверэнітэце. Дакумент, прыняты ў часы СССР, лічыцца асноўным падмуркам украінскай незалежнасці, якая была канчаткова афармленая ў снежні 1991-га. Але, падчас цяперашніх урачыстасцяў высветлілася, што не ўсе сёння ў захапленні ад той дэкларацыі. Напрыклад, група нацыяналістаў, якая лічыць, што ў пачатку 1990-х трэба было ісці шляхам Эстоніі і Латвіі. Там грамадзянамі сталі толькі нашчадкі тых, хто меў эстонскія і латышскія пашпарты да ўваходжання названых краін у СССР. У выніку да кіраўніцтва ў Рызе і Таліне прыйшлі нацыяналістычна настроеныя палітыкі, якія сталі праводзіць адпаведныя рэформы. Украіна ж пайшла шляхам прызнання сябе спадчынніцай Украінскай СССР, што, нібыта, і заклала супярэчнасці ў будаўніцтве нацыянальнай дзяржавы. Між тым, у пачатку 1990-х гадоў у рэспубліцы была падобная да балтыйскай ініцыятывы. Групоўка пад назвай «Украінская міжпартыйная асамблея» рэгістравала спадчыннікаў грамадзян Украінскай Народнай Рэспублікі (якая існавала ў 1918–1921 гадах). «Калі б мільёны ўкраінцаў аказаліся б падданымі УНР, тады давялося б склікаць нацыянальны кангрэс, які б дэлегаваў паўнамоцтвы па аднаўленні дзяржавы», — пішуць аматары балтыйскай мадэлі. Зрэшты, яны прызнаюць, што тады ідэя грамадзянства УНР цікавіла нямногіх. Толькі некалькі тысяч чалавек падтрымала гэтую ідэю.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ЯПОНІЯ. Замест адпачынку — кансервы

Як кампенсаваць аматарам турызму адсутнасць магчымасці здзяйсняць падарожжы падчас эпідэміі? Адказ прыдумалі ў мэрыі японскага горада Хакуту. Мэрыя Хакуту даслала мясцовым аматарам горнага турызму бляшанкі, у якіх, калі верыць этыкетцы, знаходзіцца горнае паветра. Прычым усё вельмі сур'ёзна. Каб здабыць тое паветра, мэр горада накіраваў сваіх супрацоўнікаў да горнага хрыбта ў цэнтральнай Японіі. На месцы чальцы экспедыцыі запоўнілі паветрам кансервавыя бляшанкі, якія пазней сталі падарункамі. «Калі іх (бляшанкі) адкрыць, то можна атрымаць хоць нейкую асалоду ад паху прыроды», — заявілі чыноўнікі мясцовым журналістам. Пра рэакцыю саміх аматараў турызму на кансервы з паветрам медыя не паведамляюць. А вось мэрыя вырашыла на гэтым не спыняцца — і цяпер рыхтуе новую партыю бляшанак з паветрам. Яны будуць напоўненыя паветрам з гарадскіх паркаў і з мясцовых каньёнаў.

**Паводле нямецкай прэсы**




**3 лютага незалежныя прафсаюзы анансавалі страйк з пакетам патрабаванняў да кіраўніцтва краіны: адстаўка ўраду Кебіча, шырокая кааліцыя, датэрміновыя выбары ў Вярхоўны Савет. Пазней да тых патрабаванняў дадалося яшчэ адно: «Інфляцыю спыніць толькі беларускі талер!»**

# 1994 — год, калі мы апошні раз выбіралі

Алег НОВІКАЎ

**Апошнія сапраўдныя выбары ў нашай краіне адбываліся ў 1994-м. Мы пагарталі падшыўкі газет 26-гадовай даўніны, каб узгадаць, з якіх падзей пачынаўся той год.**




Фота www.vytoki.net

Працягваем публікацыю версіі гісторыі незалежнай Беларусі, у якой акцэнт робіцца на малавядомыя і кур'ёзныя факты.

«Якая краіна — такі і пераварот», — іранічна рэагавала прэса на дзіўныя перасоўванні часткі ўнутраных войскаў у раёне Тэатра аперэты 18 студзеня 1994-га. Наблізіўшыся да парламенту, дзе праходзілі дэпутацкія баталіі, жаўнеры раптам чамусьці рэціраваліся. У выніку імідж Вярхоўнага Савета пацярпеў: заканадаўчы орган празвалі «аперэткай» — з намёкам на тое, што салідны парламент дакладна маглі б разагнаць.

Між тым, зімой 1994-га ў «аперэтцы» было вельмі горача. На той сесіі ляцелі галовы многіх міністраў. А 26 студзеня з пасады спікера быў адклікаsuccessСтаніслаў Шушкевіч. Адстаўка, як вядома, адбылася дзякуючы Лукашэнку, які прадставіў праект рэзалюцыі пра асабістую адказнасць кіраўніка ВС за недастатковую барацьбу з карупцыяй. Пытанне ўдалося паставіць на галасаванне і атрымаць патрэбную колькасць галасоў.

Мяркуючы па каментарах сучаснікаў, Шушкевіч сапраўды вычарпаў рэсурс лавіравання паміж фракцыямі дэмакратаў і наменклатуры. «Свабода» пісала: «За 885 дзён кіраўніцтва Шушкевіч мала чым дапамог дэмакратыі, хаця факт яго прысутнасці на пасадзе кіраўніка дзяржавы трохі стрымліваў наменклатуру». Аднак пры ўсім гэтым Ігар Германчук, аўтар артыкула, меркаваў, што «адстаўка (Шушкевіча) паскорыць канец рэжыму (Кебіча)».

Найбольш буйна, падаецца, адзначыў сыход «Шушы» дэпутат Анатоль Лябедзька. Ён і яшчэ два дэпутаты ў вечар 26 студзеня няслаба адсвяткавалі-накаціліі, і ў выніку праз палітыку пабіліся з нейкім Гасюком. Апошні бутэлькай шампанскага зламаў адному з апанентаў скіўцу. Падаспелым праваахоўнікам, каб супакоіць Анатоля, давялося надзець на яго кайданкі.

Каб закрыць тэму, трэба нагадаць, што ў той жа дзень, калі пазбавілі пасады Шушкевіча, памёр Алесь Адамовіч. Інтэлігенцыя, як пісала «Знамя Юности», убачыла ў гэтым знак бяды.

Вакансію спікера заняў генерал Мечыслаў Грыб. Сёння ён карыстаецца рэнамэ паслядоўнага дэмакрата, але ў лютым 1994-га многія бачылі ў ім гэткага Пiначэта. Як мінімум, прыход Грыба расцэньваўся як падпарадкаванне парламента Кебічу. «Свабода» адразу закінула кампрамат, што новы спікер па нацыянальнасці — паляк, які прагматычна запісаўся беларусам для кар'ернага росту.

3 лютага незалежныя прафсаюзы анансавалі страйк з пакетам патрабаванняў да кіраўніцтва краіны: адстаўка ўраду Кебіча, шырокая кааліцыя, датэрміновыя выбары ў Вярхоўны Савет. Пазней да тых патрабаванняў дадалося яшчэ адно: «Інфляцыю спыніць толькі беларускі талер!»

Страйку, які адбыўся 15 лютага, папярэднічаў мегапсіхоз унутры вертыкалі. Галоўны санітарны ўрач Мінска абвясціў пра эпідэмію грыпу і заклікаў не наведваць масавыя сходы.

Па загадзе дырэктара Дома друку не выйшаў нумар «Свабоды», якой, да таго ж, выкацілі мільённы пазоў.

У папулярнай прграме «Крок» паведамілі, што ў нетрах МУС рыхтуецца спецыяльная брыгада па лакалізацыі Сяргея Антончыка (кіраўніка страйкаму). Лаяльны ўладам Саюз афганцаў паабяцаў вывесці супраць страйкоўцаў 30 тысяч ветэранаў. Нарэшце, прагназавалі, што ў дзень страйку з'явіцца ўказ аб забароне БНФ.

Страйк, па вялікім рахунку, нешта ўяўляў сабой толькі ў тых гарадах, дзе меліся моцныя незалежныя прафсаюзы, — у Мінску, Оршы і Салігорску. Самая незвычайная акцыя прайшла ў Бабруйску, дзе да гарсавета выйшаў голы мужык. Яго імгненна адправілі ў вар'ятню.

Што да сталіцы, то тут пратэсты прафсаюзаў падтрымала група дэпутатаў Мінгарсавета, пад вокнамі якога (на плошчы Незалежнасці) і сабралася 4–5 тысяч маніфестантаў. Адсюль, з нагоды моцнага марозу, яны рушылі на Карла Маркса, 38. У выніку Мечыслаў Грыб прыняў дэлегацыю вуліцы, паабяцаўшы данесці іх патрабаванні да прэзідыуму ВС.

На гэтым тэма пратэсту заглухла, хоць на 22 лютага была абяцаная другая серыя. Напярэдадні былі інцыдэнты накшталт адключэння святла ў будынку незалежных прафсаюзаў, але тое была ўжо агонія.

Гісторыя акцыі 15 лютага будзе няпоўнай без згадкі пра прыгоды актывістаў «Партыі аматараў піва» (ПАП), якая тады якраз выйшла на палітычную сцэну. У гэты дзень прадстаўнікі ПАП на халяву раздавалі на плошчы Незалежнасці піва і сасіскі. Гэты філантрапічны акт, які шырока асвятляла прэса, зрабіў «аматарам піва» неверагоднае паблісіці. Калі ў зімовых сацыялагічных апытаннях ПАП наогул не фігуравала, то на сярэдзіну сакавіка яе рэйтынг склаў адразу 6 працэнтаў. Зрэшты, такі поспех чагосьці каштаваў партыйцам. Па дарозе з акцыі чальцоў ПАП арыштавалі і трымалі ў пастарунку двое сутак. У выніку быў складзены пратакол аб парушэнні правілаў продажу 100 кілаграмаў сасісак (!). Пад хапун трапіў нават дырэктар крамы, які прадаў тыя сасіскі. Яго звольнілі.

Безумоўна, фіяска лютаўскіх пратэстаў было наўпрост звязанае з апатыяй у грамадстве. Людзі ўсё менш спадзяваліся на ўладу, якая сама не хавала сваю слабасць. Так, напярэдадні 1994-га прэм'ер Кебіч падчас сустрэчы з Саюзам кампазітараў паабяцаў музыкам «дапамагчы выжыць».

Аднак вырашаць свае праблемы выжывання беларусы ў асноўным намагаліся самастойна, і часам вельмі арыгінальна. Напрыклад, на Плошчы Перамогі сярод белага дня невядомыя залезлі на вышыню бардзюраў будынкаў (каля 10 метраў) і знялі трансфарматары з неонавай рэкламы на суму 2 мільёны рублёў. У міліцыі зламыснікі прызналіся, што хацелі абмяняць здабычу на пару бутэлек гарэлкі.

Прыступ палітычнай актыўнасці назіраўся хіба ў тых, хто доўга марыў пра рэванш за крах СССР, — і нарэшце атрымаў шанец адарваца. Менавіта тады каля філармоніі адбылася феерычная акцыя: пад камандаваннем акцёра Уладзіміра Гасцюхіна група славянафілаў паспрабавала сарваць канцэрт вядомага сваімі ліберальнымі поглядамі Булата Акуджавы. У доказ сваёй антыпатыі на адрас барда пратэстоўцы ламалі яго кружэлкі і скакалі на іх рэштках.

Відавочна, што ўзімку 1994 года народ значна больш за страйкі цікавіў чарговы скачок долара, курс якога да канца лютага пераваліў за 9 тысяч зайчыкаў (у пачатку года «зялёны» каштаваў 7 тысяч рублёў). У гэты час увайшоў у моду жарт: «Рублёвай зоны з Расіяй не будзе. Калі і будзе, то як мінімум сторублёвая». Тыя ж, хто не займаўся бізнесам і крыміналам, кампенсавалі невясёлае існаванне прыкладна на 22 долары на месяц (памер тагачаснай сярэдняй зарплаты) серыяламі. «У Беларусі на выбарах пераможа той, хто паабяцае зняць яшчэ тры тысячы серый серыялу "Багатыя таксама плачуць"», — вымушана канстатавала адна з газет.

У кантэксце апісаных трэндаў быў не дзіўны ажыятаж, які выклікала наступная навіна: 1 красавіка ў Мінску адбудзецца ўстаноўчы з'езд Беларускай партыі дурняў. Але спачатку Вярхоўнаму Савету трэба было прыняць Канстытуцыю.

# «Вы што, хочаце назад у 90-я?»

## Які быў беларускі спорт у першыя гады суверэнітэту

Сяргей КАЙКО

**У сённяшнім перадвыбарным дыскурсе на асобным рахунку — афіцыйная рыторыка пра ліхія і страшныя 1990-я гады. Маўляў, вы — тыя, хто за перамены, — хочаце туды вярнуцца? Жадаеце зноў спазнаць той грамадскі хаос, тую эканамічную няпэўнасць, тое палітычнае бязладдзе?**



Кацярына Карстэн — адна з зорак беларускага спорту, якая зазяла ў 1990-я.
Фота noc.by

Так, усяго хапала ў тыя ліхаманкавыя часы. Беларусь толькі паўставала на руінах Саюза, які з грукатам лясnуўся. Краіна рабіла першыя крокі — упоцемку і навобмацак — і, натуральна, налятала на дзвярныя вушакі. Калісьці навукоўцы напішуць пра гэта ёмісты акадэмічны трактат, у якім усё аб'ектыўна і старанна падсумуюць. Але ж мы тут мусім гаварыць пра спорт, і менавіта гэтая тэма ў разрэзе параўнальна нядаўняга мінулага адкрываецца вельмі цікавым бокам.

Які быў беларускі спорт у 1990-я? Калі коратка, то стракатым, захапляльным і не саромным. Давайце разбірацца, успамінаць і настальгаваць.

### Алімпіяды

Упершыню беларускія спартоўцы адправіліся на Алімпійскія гульні асобнай камандай у 1994 годзе. Гэта быў зімні форум, спаборніцтвы праходзілі ў нарвежскім Лілехамеры. Нягледзячы на цяжкасці першых гадоў незалежнасці, насуперак эканамічным праблемам і 30-доларавым заробкам, маладая краіна здолела дэлегаваць на Гульні 33 атлеты — гэта больш, чым паехала, напрыклад, у Сочы–2014. Выступаючы яшчэ пад бел-чырвона-белым сцягам, беларусы ў Нарвегіі паказалі сябе годна: два сярэбраныя медалі, здабытыя біятланісткай Святланай Парамыгінай і канькабежцам Ігарам Жалязоўскім.

Праз чатыры гады ў японскім Нагана беларусы выйгралі дзве бронзы. Адзначыліся фрыстайліст Дзмітрый Дашчынскі і біятланіст Аляксей Айдараў. Такі быў наш зімовы спорт у тую ліхую эпоху, і варта адзначыць, што гэтыя вынікі добра глядзяцца нават сёння, з вышыні пражытых гадоў. Уласна кажучы, доўгі час іх і пераўзысці не надта атрымлівалася. Гэта ўдалося толькі тады, калі ўзышла зорка славутай біятланісткі Дар'і Домрачавай.

Што да летніх Алімпійскіх гульняў, то там нашы хлопцы і дзяўчаты дэбютавалі яшчэ пазней — у 1996-м, калі ехаць давялося ў амерыканскую Атланту. І зноў жа саромецца не прыйшлося. 15 медалёў рознай вартасці, бліскучая перамога маладой вясляркі Кацярыны Хадатовіч (пазней — Карстэн), чатыры бронзы гімнаста Віталя Шчэрбы, узнагароды ў лёгкай атлетыцы, барацьбе, стральбе, сямібор'і.

Да той жа эпохі належыць і наступная летняя Алімпіяда — Сідней–2000. Дык вось там беларускія спартоўцы ўвогуле паставілі рэкорд — 17 медалёў. 3 іх тры — залатыя (віншаванні прымалі штурхальніца ядра Яніна Карольчык, дыскаболка Эліна Зверава ды тая ж самая Кацярына Карстэн). А ў дадатак парадавалі іншыя лёгкаатлеты, штангісты, майстры адзінаборстваў, стральбы, мастацкай гімнастыкі.

Для параўнання: на апошніх Гульнях — у 2016-м у Рыа-дэ-Жанэйра — беларусы заваявалі ўсяго толькі 9 медалёў. Гэта найгоршы паказчык у гісторыі, пры тым што дзве з гэтых узнагарод здабылі завезеныя з Дагестану барцы Джавід Гамзатаў і Ібрагім Саідаў.

Для другога параўнання: 19 медалёў першапачаткова ўзялі нашы спартоўцы на Алімпіядзе–2008. Здавалася, вось ён — новы рэкорд. Аднак, калі здаецца, трэба хрысціцца: па выніках масавай пераправеркі допінг-проб па нас, што называецца, прыйшлі. За ўжыванне забароненых рэчываў узнагарод пазбавіліся шэсць айчынных атлетаў — лёгкаатлеты Андрэй і Наталля Міхневічы, Надзея Астапчук і Аксана Мянькова, а таксама штангісты Андрэй Рыбакоў і Настасся Новікава.

Яшчэ тры медалі беларусы былі вымушаныя вярнуць за «подзвігі» ў алімпійскім Лондане ў 2012-м. Праз што да нашага спорту надоўга прыляпілася ганебнае таўро — як да сістэмы, дзе не грэбуюць допінгам дзеля перамог любой цаной.



Фота ТАСС

Беларуская каманда на цырымоніі адкрыцця Алімпіяды-1994 у Лілехамеры

### Футбол

У тым жа 2012-м на Алімпіядзе згулялі і беларускія футбалісты. Безумоўна, гэта быў гістарычны прарыў наша віду спорту нумар адзін, хай нават у Брытаніі хлопцам поспех і не спадарожнічаў. Важна адзначыць і перадгісторыю: шчаслівы білет на Гульні каманда Георгія Кандрацьева выцягнула за год да таго, калі выйграла бронзу на маладзёжным першынстве Еўропы.

Увогуле, той перыяд навейшай эпохі быў адзначаны беларускімі футбольнымі трыумфамі на ўзроўні U-21. У маладзёжных EURO нашы хлопцы ўдзельнічалі і раней — спачатку ў 2004 годзе, а затым у 2009-м.

Здавалася б, гэта ўсё не на карысць 1990-х, дзе такога мы не ведалі. Тым больш на стыку «нулявых» і «дзясятых» расквітнеў і другі футбольны праект — БАТЭ. Барысаўчане стварылі сапраўдную фантастыку, калі, па-першае, прабіліся ў групавы раунд Лігі чэмпіёнаў у 2008-м, а, па-другое, затым паставілі гэту справу на паток. Чаго каштуе адна толькі перамога над мюнхенскай «Баварыяй», успамін пра якую застанецца з беларускімі заўзятарамі на вякі вечныя…

Аднак у 1990-я гады ў нашым футболе быў таксама годны каленкор. Прынамсі, небеспадстаўна лічыцца, што якасных гульцоў міжнароднага ўзроўню тады, напачатку незалежнасці, у краіне было болей. Яны выступалі ў моцных еўрапейскіх клубах, спасцігалі там знакавыя рубяжы, атрымлівалі гістарычныя перамогі.

Валянцін Бялькевіч і Аляксандр Хацкевіч вялі наперад непараўнальнае кіеўскае «Дынама» Валерыя Лабаноўскага. Тая каманда была адной з мацнейшых у Еўропе, сведчаннем таму — паўфінал Лігі чэмпіёнаў у 1999-м. Сяргей Гурэнка з маскоўскім «Лакаматывам» выйграў у Расіі ўсё, што можна, пасля чаго адправіўся па кантракце ў італьянскую «Рому». Васіль Баранаў і Міраслаў Рамашчанка былі жалезнымі гульцамі асновы ў легендарным «Спартаку» Алега Раманцава. Быў час, калі ў стартавым складзе маскоўскага «Дынама» выходзілі адразу пяцёра беларусаў, дый наогул дзе толькі беларусы ні гулялі — ад Масквы, Кіева, Піцера да Італіі, Іспаніі, Турцыі, Англіі…

Урэшце самым аб'ектыўным паказчыкам развіцця футбола ў любой краіне з'яўляюцца вынікі нацыянальнай зборнай. І вось тут нам сёння фарсіць няма чым. Ну, хіба выхадам у плэй-оф чэмпіянату Еўропы, які стаў магчымым толькі дзякуючы льготнаму шляху «для бедных» — праз новаўтвораную Лігу нацый.

Мінулая эпоха ў гэтым сэнсе больш значная. Так, непасрэдна 90-я беларуская зборная збольшага бесталкова прафукала: патэнцыял быў грандыёзны, але рэалізаваць яго з розных прычын не ўдалося. І ўсё ж тое пакаленне гульцоў здолела гучна грымнуць дзвярыма. Пад кіраваннем эпічнага Эдуарда Малафеева беларусы ледзь не выйшлі на чэмпіянат свету–2002, заняўшы ў адборачнай групе рэкордна высокае трэцяе месца. І хаця да заяўленай эпохі храналагічна гэта не адносіцца, тыя поспехі здзейсніла ўсё ж такі старая генерацыя 90-х гадоў.

І цяпер гэтае трэцяе месца нам толькі сніцца. Нягледзячы на адбудаваныя стадыёны, дзяржаўную падтрымку футбола і пільную ўвагу да яго на самых высокіх паверхах улады.

### Хакей

Набудавалі ў нас безліч лядовых палацаў цягам апошніх дзесяцігоддзяў. Але штучны лёд — гэта, мякка кажучы, не гарантыя добрых лічбаў на табло. Што летапіс хакейнай Беларусі пераканаўча і паказвае.

Сёння ў Беларусі каля сарака лядовых спарткомплексаў і крытых пляцовак. Яшчэ ў сярэдзіне 1990-х арэнаў было ўсяго чатыры. Дзве ў Мінску, плюс Гродна і Наваполацк. І трэба ж: якраз у канцы мінулага стагоддзя ды на пачатку бягучага беларускія хакеісты грымелі ў свеце на ўсю моц. І гэта пры тым, што выбірацца ў эліту нашай зборнай давялося з самых нізоў — як новай самастойнай краіне на сусветнай карце.

На гэта спатрэбіўся пэўны час, таму толькі ў 1998-м наша каманда зрабіла першыя крокі на Алімпіядзе. У японскім Нагана хлопцы не збянтэжыліся. На стартавым групавым этапе яны ўпэўнена разбамбілі французаў (4:0) і немцаў (8:2) і выйшлі ў васьмёрку мацнейшых. Гэта была столь, прабіць якую камандзе-дэбютантцы не пашчасціла. Але гэта быў і поспех, які на радзіме ацанілі. І праз які, дарэчы, тыя ж самыя хакеісты пакрочылі насустрач самаму неймавернаму свайму трыумфу — чацвёртаму месцу ў Солт-Лэйк-Сіці–2002, калі беларусы феерычна высадзілі ў чвэрцьфінале магутных шведаў.

У той камандзе што ні імя было — асоба і біяграфія. Яны гулялі ў НХЛ, у Расіі, у Еўропе. Яны выйшлі яшчэ з шынялю савецкага хакею, але ў большасці сваёй былі свае выхаванцы, беларусы, пераважна з мінскай школы «Юнацтва».

Прайшло дваццаць гадоў, і куды збочыў за гэты час наш хакей? У НХЛ беларусаў даўно няма. У Расіі яшчэ застаюцца, але ў параўнальна невялікай колькасці і не на вядучых ролях. Базавы клуб зборнай мінскае «Дынама» пляцецца ў хвасце ў КХЛ, і на яго не лаецца толькі лянівы. Сама ж зборная пра Алімпіяду ўжо дзесяць гадоў як толькі марыць, а да ўсяго яшчэ нядаўна вывалілася ў другі дывізіён сусветнага хакею. Туды, адкуль яе падымалі пакаленні 90-х.

І беларусаў, што адметна, у шэрагах значна паменела. Пра канвеерную «пашпартызацыю» іншаземцаў ужо даўно ходзяць легенды. Спачатку ў зборную бралі расіян, з якімі мы хоць ментальна блізкія, затым даспадобы пачалі прыходзіцца і канадцы з амерыканцамі.

І што там нас чакае пры такіх справах у будучым траўнічэрвені? На хатнім чэмпіянаце свету, які даверылі Беларусі ўжо другі раз. Добра, калі будзе нейкі пазітыўны вынік, хаця істотна меркаванне наконт цяперашняга стану нацыянальнага хакея гэта не зменіць.

Дык калі ж беларускі спорт быў лепшы? Сёння — пры трапяткой увазе і шчодрай фінансавай падтрымцы дзяржавы? Ці чвэрць стагоддзя таму, калі спаборнічалі часцей за ідэю, пераадольвалі розныя цяжкасці і моцна верылі ў светлую будучыню?

# БагатаДата

**Гэтымі днямі мы можам адсвяткаваць аж два дні незалежнасці Беларусі. Адзін — дакладна, другі — па жаданні. Якія? Чытайце ў нашым традыцыйным аглядзе.**

## 25 ліпеня

**Дзень пажарнай службы** адзначаецца ў Беларусі.

**1840.** У вёсцы Азяты Жабінкаўскага раёна на Брэстчыне нарадзіўся этнограф і фальклярыст Юльян Крачкоўскі. Дырэктар Полацкай настаўніцкай семінарыі, Віленскага настаўніцкага інстытута, старшыня Віленскай археаграфічнай камісіі. Бацька вядомага савецкага ўсходазнаўца Ігната Крачкоўскага, які пераклаў на рускую мову Каран і быў рэдактарам першага выдання «1001 ночы».

**1910.** У вёсцы Новы Пагост (цяпер Мёрскі раён) нарадзіўся беларускі дзеяч харавога мастацтва, кампазітар, дырыжор, фальклярыст, заснавальнік і кіраўнік Дзяржаўнага Акадэмічнага хору Беларусі Генадзь Цітовіч. Першую навуку мастацтва і культуры атрымаў у дзіцячыя гады ад Флора Манцэвіча.

## 26 ліпеня

**Дзень работнікаў гандлю ў Беларусі** (адзначаецца ў апошнюю нядзелю ліпеня), а таксама **Дзень эсперанта.**

**1875.** У Ковенскай губерні нарадзіўся друкар, выдавец кніг на беларускай, рускай, польскай і літоўскай мовах Марцін Кухта. Паходзіў са шматдзетнай сялянскай сям'і. Атрымаў пачатковую адукацыю (чатырохгадовае прыходскае вучылішча). У 1890-м годзе аказаўся ў Вільні і накіраваўся ў друкарню Віленскай ваеннай акругі. Тут ён здаў экзамен на прадмет адукаванасці і стаў вучнем наборшчыка. За дзесяць гадоў вучобы Кухта здолеў стаць малодшым наборшчыкам, пасля гэтага паступіў на працу ў Віленскую губернскую друкарню, аднак хутка адтуль звольніўся і накіраваўся ў сталіцу імперыі. Пасля вучобы ў Санкт-Пецярбургу там жа працаваў наборшчыкам і метранпажам.

**1965.** У Мінску нарадзіўся беларускі мовазнаўца Зміцер Саўка. Браў удзел у моладзевым грамадскім аб'яднанні «Беларуская Майстроўня» (1979–1984). У чэрвені 1982 года скончыў сярэднюю школу № 61 Мінска (цяпер гімназія № 3). Летам 1983 года паступіў на філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, які скончыў у 1988 годзе. Выкладаў у Мінскім дзяржаўным педагагічным інстытуце замежных моваў, дзе працаваў на кафедры беларускай мовы. У канцы 1990-х паехаў у ЗША на запрашэнне Вітаўта Кіпеля і прабыў там агулам паўтара года, запісваў успаміны амерыканскіх беларусаў. У 1999–2002 гадах працаваў стыль-рэдактарам на радыё «Рацыя». З 2006 года кіраваў моўнай службай на тэлеканале Белсат. Памёр 9 красавіка 2016 года, хварэў на рак. Пахаваны на Заходніх могілках Мінска.

## 27 ліпеня

**Сусветны дзень барацьбы з гепатытам.**

**1950.** У вёсцы Грачанае Валгаградскай вобласці Расіі нарадзілася дзяржаўная дзяячка Беларусі Антаніна Морава. У 2001–2006 гадах працавала міністрам працы і сацыяльнай абароны Беларусі. Намесніца старшыні Беларускага саюза жанчын.

**1990.** Вярхоўны Савет БССР прыняў Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце. Наша краіна абвяшчалася суверэннай дзяржавай, «якая ўладкавана на аснове ажыццяўлення беларускай нацыяй яе неад'емнага права на самавызначэнне, дзяржаўнасці беларускай мовы, вяршэнства народа ў вызначэнні свайго лёсу». Праз год, 25 жніўня, 1991 года Дэкларацыя набыла статус канстытуцыйнага закона. Менавіта дзень прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце стаў датай, калі ў першай палове 1990-х гадоў святкаваўся Дзень незалежнасці Беларусі. У выніку рэферэндуму 14 траўня 1995 года, ініцыяванага Лукашэнкам, Дзень незалежнасці быў перасунуты на 3 ліпеня — Дзень вызвалення Мінска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.




Фота www.kolcovo.ru

## 28 ліпеня

**1890.** У вёсцы Рушчаны Гродзенскай губерні нарадзіўся Язэп Рэшаць — беларускі рэлігійны і культурна-асветны дзеяч, навуковец, педагог, пісьменнік, драматург і публіцыст. Каталіцкі святар заходняга абраду, бенедыкцінец, місіянер, доктар філасофіі і тэалогіі. Адзін з найвядомейшых тэолагаў і вучоных у гісторыі беларускага хрысціянскага руху XX стагоддзя. У 1928–1929 гадах — актыўны дзеяч Беларускай хрысціянскай дэмакратыі. У складзе беларускай дэлегацыі ўдзельнічаў у працы 5-га Уніяцкага кангрэса ў Велеградзе. У 1938 годзе выехаў у ЗША да ксяндза Яна Тарасевіча ў мясцовасці Лайл (Ліс-Ілінойс) каля Чыкага, дзе ўступіў у ордэн бенедыкцінцаў у абацтве Св. Пракопа. Пасля года навіцыяту атрымаў манаскае імя Апанас. Памёр 15 лютага 1958 года.

**1920.** У польскім Кракаве памёр паэт Алесь Гарун (сапраўднае імя — Аляксандр Прушынскі). Прычынай смерці стала крываўка (дызентэрыя), на якую Гарун захварэў у Ваўкавыску, паеўшы вішняў і запіўшы іх халоднай вадой. Яго вывезлі санітарным цягніком у Кракаў, дзе паэт і памёр. Пахаваны там на Ракавіцкіх могілках. Доўгі час у беларускай літаратуры яго імя не згадвалася, бо лічыўся «нацдэмам», які не разумеў класавай барацьбы. У Мінску ёсць вуліца Гаруна. Будзеце праязджаць ці шпацыраваць па ёй — згадайце актуальны і па сёння верш паэта пра беларускую мову: «Ты, мой брат, каго зваць беларусам, Роднай мовы сваёй не цурайся; Як не зрокся яе пад прымусам, Так і вольны цяпер не зракайся».

## 29 ліпеня

**1965.** У Мінску ў парку Горкага запрацаваў публічны планетарый.

## 30 ліпеня

**Сусветны дзень барацьбы з гандлем людзьмі,** а таксама **Міжнародны дзень сяброўства.**

## 31 ліпеня

**Дзень сістэмнага адміністратара.**




**1920.** Пасля савецка-польскай вайны спыніла існаванне Літбел (Літоўска-Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка) і адбылося паўторнае абвяшчэнне БССР. Дакладней, тады яна называлася ССРБ (Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка Беларусь).

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347 52 81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1214

Падпісана да друку 23.07.2020. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.